# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 10 (680) 9 САКАВІКА 1969 г. ЦАНА 60 гр.

## БГКТ

### ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА ГП

18 лютага адбылося пасяджэнне прэзідыума Галоўнага праўлення беларускага таварыства. Прэзідыум пасля шырокай абмяркоўкі зацвердзіў баланс за 1968 год. Прысутныя многа ўвагі прысвяцілі выдавецкім справам і праблемам грамадскага музея БГКТ у Белавежы. Як мы ўжо неаднойчы інфармавалі, існуючы будынак Белавежскага ГС-у, не толькі цесны, але і не адпавядае мінімальным патрэбам музея. У сувязі з тым, што прыродазнаўчы музей у Белавежы будзе хутка перанесены ў новы будынак, вырашана зрабіць усе патрэбныя захады ва ўлад, каб атрымаць яго будынак на нейкі час (пакуль пабудуецца будынак для музея БГКТ) для нашага этнатрафічнага музея.

Наступным пунктам павесткі дня была абмяркоўка справаздачна-выбарчай кампаніі. Сцверджана, што найлепш яна праходзіць у Гайнаўскім і Сямяцкім аддзелах БГКТ. Там, апрача інструктараў, выязджаюць на вёскі актывісты аддзелаў і дапамагаюць гурткам у правядзенні сходу, у накрэсленні планаў працы, у выбары новых праўленняў і дэлегатаў на канферэнцыі аддзелаў. У Бельскім, Сакольскім, Міхалоўскім і Гарадоцкім аддзелах актыўна яшчэ не ўключыліся ў справаздачна-выбарчую кампанію ў гуртках.

Члены прэзідыума на гэтым жа пасяджэнні абмяркоўвалі таксама пытанні, звязаныя з арганізацыяй з'езда беларускага таварыства, які вызначаны на дзень 11 мая. Ужо ўстаноўлены даты справаздачна-выбарчых канферэнцый у паасобных аддзелах. 27 красавіка адбудзецца апошняе пленарнае пасяджэнне ГП, на якім будзе зацверджаны даклад на VI з'езд БГКТ. Пастаноўлена, што з'езд закончыцца багатай мастацкай часткай, у якой выступіць эстрада ГП «Лявоніха» і некаторыя аматарскія калектывы аддзелаў.

Далей прэзідыум ГП ацаніў працу членаў Галоўнага праўлення. З гэтай ацэнкі вынікае, што шмат членаў ГП ахвярна працуе для нашай арганізацыі, але ёсць і такія, што не праяўляюць актыўнасці.

Пасяджэнне прэзідыума закончылася абмяркоўкай тэматыкі беларускага календара на 1970 год і зацвярджэннем галоўнага рэдактара календара. Будзе ім дырэктар Беларускага ліцэя ў Бельску Падляшскім Мікалай Гайдук.

У пасяджэнні прэзідыума прымаў удзел прадстаўнік Ваяводскага камітэта ПАРП Станіслаў Зялінскі.

### ЛІКІ З МІНУЛАГА ГОДА

Беларускае таварыства ў канцы 1968 года налічвала 188 гурткоў, якія аб'ядноўваюць 6441 чалавек. Членскіх складчын аплачана на 21.562 зл.

Эстрада ГП «Лявоніха» дала 167 канцэртаў, а кінаперасоўка — 204 фільмы.

Аматарскіх калектываў, якімі апякуюцца гурткі БГКТ і аддзелы, налічвалася 68.

Фотавыставак было арганізавана 324. У асноўным прысвечаны яны былі дасягненням БССР.

У мінулым годзе было арганізавана беларускім таварыствам 164 акадэмій і спатканняў, 146 дакладаў, 296 гутарак. У гэтых ліках 106 мерапрыемстваў з нагоды 50-ай гадавіны Савецкай Арміі, 79 мерапрыемстваў з нагоды 25-ай гадавіны Войска Польскага і 189 мерапрыемстваў з нагоды V з'езда ПАРП.



Сёстры Логінавы. Салісткі Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Мабыць не раз чулі вы іх па Мінскім радыё і траплялі ў палон народнай песні. Яны яе выконваюць прыгожа. Дык хіба не ад рэчы будзе з выпадку міжнароднага свята жанчын пазнаёміцца з імі і па фатаграфіі. Слаўныя пявунні!

## НАСУСТРАЧ VI З'ЕЗДУ БГКТ

# ПЕСНЯ ЖЫЦЬ І ЛЮБІЦЬ ПАМАГАЕ

У 1968 годзе выдавецтва Беларускага таварыства выдала ў «Польскіх награнях» грампласцінку «Беларускія народныя песні», у дасканалым выкананні Міхася Забэйды-Суміцкага пры акампаніяменце аркестра мандаліністаў Эдуарда Цюкшы. У выдавецкай дзейнасці Беларускага таварыства ў Польшчы гэта пазіцыя ўнікальная і адначасова добра сведчыць пра ўсебаковую выдавецкую дзейнасць Таварыства. Грампласцінка мае 10 беларускіх народных песень, каштавала выдаўцаў нямала тысяч грошай, выйшла масавым тыражом у 5 тысяч экземпляраў, а была зроблена з падвойнай думкай: першая, каб запісаць найпрыгажэйшыя беларускія народныя песні ў непаўторным выкананні саліста і знаўцы гэтых песень М. Забэйды-Суміцкага. Другая думка такая, каб падараваць слухачу і любіцелю народных песень гэтыя песні для памяці і як найлепшага выкарыстання.

Грампласцінка дае магчымасць шырокага і differentнага яе выкарыстання. Першае: яе можна звычайна і з прыемнасцю слухаць, адпачываючы ці працуючы, як кожную добрую грампласцінку. Для любіцеляў песні гэта не абыякое перажыванне, а для любіцеляў беларускай песні — тым большае. Песні выконваюцца на добрай беларускай мове, аддаюць добра спецыфіку беларускай народнай песні, яе дух, яе дасціпнасць, фантазію, сум і радасць, чаканне і сустрэчы. Грампласцінка прадстаўляе сабой вялікую цікаўнасць з навуковага боку, як арыгінальны запіс занікаючай народнай культуры. Шкада толькі, што на вокладцы няма аніякай інфармацыі, хоць бы найпрасцейшай, аб выканаўцы песень, іх характары, што не пададзены кароткі, у пару словах, змест кожнай песні, што з'яўляецца вельмі важным у распаўсюджванні грампласцінкі і асабліва сярод польскага насельніцтва. Такія рэчы робяцца ўсюды і заўсёды, і дасканалы тут прыклад дае нававыдадзеная ў Чэхаславакіі грампласцінка «Беларускія песні і рамансы» ў тым жа выкананні М. Забэйды-Суміцкага з 17 песнямі і рамансамі.

Наша грампласцінка «Беларускія народныя песні» выдадзена прыгожа, каляровая, чырвона-зялёныя літары напісаны на кававым фоне канверта, з левага боку беларускі народны арнамент (крыху шырокі, і таму выдаецца

Працяг на стар. 4

## ЛЮДЗІ БГКТ

### АННА АМБРОЖЭЙ



Маладыя гады прайшлі для Анны Амброжэй вельмі цяжка, кашмарна. Выпалі яны на перыяд нямецкай акупацыі. Не было ёй яшчэ і васемнаццаці год, калі немцы вырываюць яе з сямейнага гнязда, арыштоўваюць і гоняць у Беласток.

Летняя сонечная раніца ў Саколях прынясла многа гора. За ўзарваны нямецкі цягнік з салдатамі і зброяй немцы помсціліся страшэнна. Два тыдні з Беластоцкай турмы вазілі людзей на вуліцу Жвіркі і Вігуры і тут вялі допыт. Білі, палівалі на голыя плечы едкую вадкасць, усаджвалі іголкі пад пазногці, не давалі піць і есці. Але калі вельмі цяжка, калі смерць некалькі крокаў ад цябе, тады, як ніколі, хочацца жыць, тады жыццём найбольш даражыш. Скатаваную, змучаную, ледзь жывую вывезлі Анну Амброжэй у лагер у Інстэнбургу. Распалажаны быў ён у лесе. І тут зноў здзек і голад. Але многія перажылі, дачакаліся вызвалення. Савецкіх войск вельмі ўсе чакалі. І дачакалася больш трох тысяч чалавек з гэтага лагера.

Сярод іх была і Анна Амброжэй. Пачаткова накіравана была ва ўтвораны ПГР (у Паўночнай Прусіі). Працавала там брыгадзірам.

І ўрэшце яна ў роднай хаце. Пачаткова працуе ў ПУР-ы ў Міхалове. Але Анна — спецыяліст ад гатавання. Вельмі добры кухар. І вось рэкамендуюць яе на працу ў сталовай у Ваяводскім камітэце партыі. Пазней працуе яна ў будаўляна-дарожным тэхнікуме, а ўжо ад васьмі год — у дзіцячых яслях № 6. Яна заўсёды добра выконвае свае абавязкі, заўсёды ў сваёй установе карысталася і карыстаецца пашанай.

Анна Амброжэй ужо многа год з'яўляецца актыўным членам беларускага таварыства. Вялікую дапамогу аказвае яна ў працы гарадскому аддзелу БГКТ у Беластоку. У памяшканні таварыства яе часта можна ўбачыць і з мужам, які таксама ніколі не адказваецца ад грамадскай працы. Як член праўлення аддзела Анна Амброжэй можа служыць прыкладам ахвярнасці для сваёй арганізацыі.

М. Хмялеўскі



Актывісткам БГКТ, мілым чытачкам «Нівы» і наогул усім жанчынам з нагоды жаночага свята, апрача букету кветак, шлем самыя сардэчныя прывітанні.

ГП БГКТ «НІВА»

# Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі



## СВЕТ

### С. ЕНДРЫХОЎСКІ Ў МАСКВЕ

Міністр замежных спраў Польскай Народнай Рэспублікі **др Стэфан Ендрыхоўскі** прабываў з афіцыяльным візітам у СССР. Польская дэлегацыя правяла тут размовы з савецкімі кіраўнікамі ўрада, дзе абсуджана міжнародную сітуацыю, а таксама справу двухбаковых суадносін між Польшчай і СССР.

Міністр Ендрыхоўскі, між іншым, быў прыняты старшынёй Вярхоўнага Савета СССР **Н. Падгорным.**

### ВІЗІТ НІКСАНА

Закончыўся візіт новага амерыканскага прэзідэнта **Р. Ніксана** ў некаторых краінах заходняй Еўропы. На глыбейшую ацэнку не маем матэрыялаў, калі аддаем гэты матэрыял да друку.

Аднак на аснове звестак з паасобных краін, у якіх быў Ніксан, можна рызыкнуць сцвярджэнне, што перш за ўсё быў гэта візіт жэстаў.

Больш цікавым здаецца быць іншае. Напрыклад, суадносіны між Вялікабрытаніяй і Францыяй. Англійскі пасол правёў тайныя размовы з дэ Голем на тэму еўрапейскіх спраў, а ў тым ліку і супольнага рынку. Англійскі прэм'ер Вільсан паінфармаваў пра гэта заходнегерманскага канцлера Кізінгера. У хуткім часе французска-брытанская тайна знайшлася на першых старонках газет свету. Усё гэта сталася перад прыездам у Еўропу Ніксана, які меў наведаць (і наведаў) іменна м. інш. Вялікабрытанію, Францыю і ФРГ. Ёсць прынамсі дзве версіі, дзеля чаго гэту тайну адкрыў Вільсан: 1) каб скампраматаваць дэ Голя і такім чынам ізаляваць яго ў міжнародным капіталістычным свеце, а перш за ўсё перад ЗША за яго самастойную еўрапейскую палітыку, і 2) Вільсан баяўся ўласнай двудушнасці перад урадам ФРГ, калі б гэты апошні даведаўся, што за яго плячыма ўрад Вільсана вядзе патаемныя размовы на тэму Еўропы з дэ Голем.

Істотным у «экскурсіі» Ніксана былі таксама масавыя выступленні насельніцтва, а асабліва моладзі наведваемых краін. Пратэставалі яны супраць візіту Ніксана і супраць в'етнамскай вайне, якую працягваюць ЗША.

### ПАРУШЭННЕ КАРТЫ ААН

Міністр замежных спраў Гватэмалы і старшыня XXIII сесіі Генеральнай Асамблеі ААН прыняў пастанову, згодна з якой членам Камітэта дэкады развіцця ААН сталася ФРГ — апрача Польшчы, Беларусі і Румыніі. Гэты крок з'яўляецца парушэннем Карты ААН, таму што ФРГ не з'яўляецца членам ААН. У такой сітуацыі Беларусь і Польшча заявілі, што не могуць прыймаць удзелу ў працах Камітэта.

### ВАЙСКОВАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ ЧССР...

...з міністрам абароны генералам М. Джурам прабывала ў СССР. Дэлегацыю прыняў прэм'ер А. Касыгін, а міністр Джур меў прамову на акадэміі з нагоды 51 гадавіны Савецкай Арміі.

**А. К.**



## БССР

### ПЛЕНУМ

У Мінску адбыўся пленум Цэнтральнага Камітэта Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі Беларусі. З дакладам аб рабоце камсамольскіх арганізацый рэспублікі па выкананню пастановы ЦК Кампартыі Савецкага Саюза **«Аб 50-годдзі ВЛКСМ і задачах камуністычнага выхавання моладзі»** выступіў першы сакратар Г. Жабіцкі.

На пленуме з прамовай выступіў сакратар Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі Ф. Сурганаў.

### ЖУРНАЛІСТАЎ

У мінскім клубе журналістаў адбылася прэс-канферэнцыя работнікаў газет, радыё, тэлебачання і выдавецтваў беларускай сталіцы. З прамовай аб характэрных рысах і некаторых асаблівасцях у арганізацыі сацыялістычнага спаборніцтва на прадпрыемствах рэспублікі ў сучасны момант выступіў старшыня Беларускага Рэспубліканскага Савета Прафесіянальных Саюзаў І. Макараў.

«Спаборніцтва было і застаецца асноўным метадам уздзеяння прафсаюзаў на развіццё эканомікі, важнейшай формай іх удзелу ў камуністычным будаўніцтве», — м. ін. заявіў І. Макараў.

### ПАСЯДЖЭННЕ

Адбылося пасяджэнне Пастаяннай камісіі па культурна-асветнай рабоце Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Разгледжана пытанне належнай дзейнасці культурна-асветных устаноў Мінска па абслугоўванню насельніцтва ва ўмовах пяцідзённага рабочага тыдня.

### МІЖРЭСПУБЛІКАНСКІ

У Мінску адбыўся міжрэспубліканскі творчы семінар, прысвечаны ленінскім прынцыпам у публіцыстыцы. У семінары прымалі ўдзел публіцысты Беларусі, Літвы, Латвіі і Эстоніі, а таксама Смаленскай, Бранскай і Калінінградскай абласцей. Семінар пачаўся ўступнай прамовай сакратара ЦК КП Беларусі С. Пілатовіча.

Загалоўкі дакладаў: **«Наш сучаснік у творах публіцыстаў», «Аб ідэалагічнай барацьбе ў сучасным свеце».**

### ВЯЛІКІЯ

За вялікія заслугі ў галіне аховы здароўя народа Прэзідыум Вярхоўнага Савета Саюза ССР прысвоіў званне Героя Сацыялістычнай Працы з уручэннем ордэна Леніна і залатога медаля «Серп і Молат» групе беларускіх лекараў: Праскоўі Гарбацэвіч з Баранавіч, Уладзіміру Міронычку з Гродна, Аляксею Шубе з Мінска і акушэрцы Зоі Цітовай з Магілёўшчыны.

### ПЕРШЫ

Першы руска-беларускі слоўнік грамадска-палітычнай тэрміналогіі складзены Інстытутам мовазнаўства Акадэміі навук БССР.

У кнізе сабраны і сістэматызаваны больш як дваццаць тысяч тэрмінаў і тэрміналагічных выразаў. Яны складуць том аб'ёмам у трыццаць друкаваных аркушаў. Слоўнік змяшчае тэрміналагічную лексіку па асноўных раздзелах грамадазнаўства — філасофіі, палітэканоміі, тэорыі і практыцы сацыялізма.

(ся)



## ПОЛЬШЧА

### ЧЫНЫ

Вялікую частку абавязацельстваў у гонар 25-годдзя Народнай Польшчы складаюць шырока арганізаваныя працы грамадскім чынам. Акажуць яны вялікі ўплыў на павышэнне ўмоў жыцця і працы рабочых калектываў розных прадпрыемстваў на павышэнне эстэтыкі гарадоў і вёсак, разбудову цэнтраў культурнага і асветнага жыцця. Абавязацельствы асягнулі ўжо сотні тысяч гадзін працы грамадскім чынам. На заклік гуты «Варшава» адклікнулася між іншым вёска. Працаўнікі пэгээраў у Познаньскім ваяводстве пастанавілі пабольшыць гадоўлю буйнай рагатай жывёлы і свіней, а таксама выканаць грамадскім чынам працы пры рамонце школ, кавярняў і дзіцячых садоў. Жыхары вёсак прымаюць абавязацельствы пабудовы грамадскім чынам вясковых дарог.

### IX КАНГРЭС

У Варшаве адбыўся IX кангрэс Дэмакратычнай партыі (С. Д.). Кангрэс выбраў новыя ўлады Дэмакратычнай партыі. Старшынёю Цэнтральнага Камітэта СД выбрана Зыгмунта Маскву. Кангрэс прыняў пастанову, у якой акрэсліваюцца напрамкі далейшай дзейнасці СД. Як асноўныя заданні СД пастанова акрэслівае далейшае павышэнне ідэйна-палітычнага ўзроўню і прафесіянальных кваліфікацый паасобных асяроддзяў інтэлігенцыі, рамяства, паслуг і гандлю, паляпшэнне працы дзяржаўнай адміністрацыі, далейшае развіццё дробнай вытворчасці і паслуг, далейшая грамадская гаспадарчая і культурная актывізацыя малых гарадоў.

Пастанова сцвярджае, што СД як немарксіцкая дэмакратычная партыя прымае актыўны ўдзел у пабудове сацыялістычнага ладу ў Польшчы ў цесным саюзе з Польскай аб'яднанай рабочай партыяй і Аб'яднанай сялянскай партыяй, прызначаючы кіраўнічую ролю ПАРП ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва.

### ПРАЕКТЫ

26 лютага адбылося пасяджэнне прэзідыума Камітэта працы і заработкаў, на якім прадыскутавана праект працы Камітэта на 1969—1970 гады. Праца Камітэта канцэнтравацца будзе над праграмай скарочвання часу працы ва ўмовах асабліва цяжкіх і шкодных для здароўя, над падрыхтоўкай праекта кодэкса працы і над далейшым паляпшэннем арганізацыі працы. Згодна з праектам дзённая норма працы ў цяжкіх умовах скарочанай будзе да 7, а нават да 6 гадзін.

### «КУХНЯ»

Пад канец сакавіка ў Катавіцах аддадзена будзе ў карыстанне найбольшая ў Еўропе Цэнтраля кулінарных вырабаў. Будзе яна рыхтаваць паўпрадукты, якія перад спажыццём патрабаваць будуць невялікіх толькі захадаў. Для прыкладу падамо, што толькі адно абсталяванне «кухні» — электрычная патэльня смажыць будзе на працягу гадзіны каля 3 тысяч катлетаў.

(п)



## ВАЯВОДСТВА

### АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВЫ

У адказ на заклік варшаўскіх металургаў працоўныя Беласточчыны масава прымаюць прадукцыйныя абавязацельствы ў гонар 25-ай гадавіны Польскай Народнай Рэспублікі. Рабочыя чыгуначнага прадпрыемства стальных канструкцый у Старасельцах датэрмінова выканаюць шматлікія заказы іншых прадпрыемстваў, панізяць уласныя кошты прадукцыі, грамадскім чынам перабудуюць сталоўку для рабочых і іншыя бытавыя памяшканні. Шмат часу прысвецяць яны на працу грамадскім чынам для асяроддзя свайго прыгарада. Будуць рамантаваць прылады ў дзіцячым садзе, будаваць стадыён і перабудоўваць вуліцы. Вартасць абавязацельстваў Беластоцкага прадпрыемства галантэрыі ацэньваецца на суму ў 12 мільёнаў злотых, а абавязацельствы Акруговага прыдпрыемства драўнянай прамысловасці — на 3 мільёны злотых. Рабочыя лясной чыгункі ў Валілах абавязаліся 700 гадзін часу прысвяціць на пабудову дарогі ў Чорнай Беластоцкай і на пабудову школы ў Валілах. Апрача гэтага пасадзяць яны 2 гектары лесу і звыш плана вывезуць з лесу столькі драўніны, што кошт яе транспарту склаў бы суму ў 200 тысяч зл. Беластоцкае прадпрыемства ваўнянай прамысловасці імя Сяржана апрача 25-ай гадавіны ПНР адзначае таксама ўласны юбілей — 25-ую гадавіну існавання прадпрыемства. Абодва гэтыя юбілеі рабочыя Сяржана рашылі сустрэць каштоўнымі абавязацельствамі. Прадзільны цэх прадпрыемства выпусціць звыш плана 33 тоны пражы, а ткальня — 32 тысячы метраў тканіны. Іншыя цэхі таксама прыступілі да юбілейнага чыну. Апрача гэтага рабочыя Сяржана забавязаліся працаваць 1518 гадзін часу грамадскім чынам пры ўпрыгожванні свайго прадпрыемства і горада Беластока. Рабочыя спулдзельні працы імя 1-га мая абавязаліся гадавы план выканаць да 15 снежня г.г. Варта яшчэ адзначыць, што прадукцыйнымі абавязацельствамі вітаюць знамянальны юбілей калектывы фастаўскага камбіната і фабрыкі жалезных прылад.

### ГАЙНАЎСКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

26-га лютага г.г. адбылася ў Гайнаўцы справаздачна-выбарчая партыйная павятовая канферэнцыя. Яе ўдзельнікі, сярод якіх быў таксама сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку тав. Вітальд Мікульскі, усебакова абмеркавалі гаспадарчыя і грамадска-культурныя справы Гайнаўскага павета. В. Мікульскі ацаніў дыскусію, якая разгарнулася на гайнаўскай канферэнцыі, як надзвычай змястоўную і карысную. Удзельнікі канферэнцыі выбралі новыя партыйныя ўлады Гайнаўскага павета. I сакратаром Павятовага камітэта ў Гайнаўцы выбраны тав. Аляксей Лазоўскі. Апрача яго ў састаў сакратарыята ўвайшлі: Мікалай Самоцік, Людвік Бартосяк і Рышард Дваракоўскі.

(вр)




**Niedziela, 9.III.**

8.05 Program dnia. 8.10 TV Kurs Rolniczy: „Intensywne nawożenie użytków zielonych". 8.45 „Przypominamy, radzimy". 8.55 PKF. 9.05 „Skarb w srebrnym jeziorze — film fab. jug. 10.45 „Ich świat" — film rum. 11.00 Sprawozdanie sportowe. w przerwie ok. 11.45 Dziennik. 14.15 Dla dzieci: J. Wolski — „W górę rzeki". 15.15 „Przemiany". 15.45 „Jazz nad Odrą". 16.25 „Szlakami zabytków. 16.45 „Śpiewające podwórka" — program rozrywkowy. 17.40 Sprawozdanie z Europejskich Igrzysk Halowych w lekkiej atletyce (Belgrad), 19.30 „Dobranoc". 19.40 Dziennik. 20.10 „Ludzie i zdarzenia" — rep. film. 20.30 Międzynarodowy Festiwal „Złoty Jeleń" — koncert laureatów (Braszow — Rumunia). 22.00 Dziennik. 22.15 Wiadomości sportowe. 22.25 „Ryzyko zawodu" — nowela film. franc.

**Poniedziałek, 10.III.**

15.25 Program dnia. 15.30 i 22.25 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.30 „Echo Stadionu" — mag. sportowy. 17.50 „Zdarzyło się zimą" — film radz. 18.05 „Człowiek w mieście". 18.30 „Kronika 50-lecia Kraju Rad". 18.50 „Eureka". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: P. Calderon de la Barca — „Niewidzialna kochanka". Reż. — G. Holoubek. 21.35 „Klaps". 22.05 Dziennik.

**Wtorek, 11.III.**

8.25 „Sygnet z syreną" — film fab. węg. cz. II. 10.00 Dla szkół: (kl IV) „W porcie rybackim". 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół (kl. XI) Język polski — S. Grochowiak — „Ballada ciesielska". 11.25 Przerwa. 12.45 i 14.55 Przysposobienie Rolnicze: „Przeszczepianie drzew i prześwietlanie koron". 13.20 Przerwa. 14.50 Program dnia. 15.30 i 22.25 Politechnika TV I roku. 16.05 i 23.00 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 „Zimowy sen" — film czechosł. 17.00 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Sygnet z syreną" — film fab. węg. cz. II. 21.35 „Samorządność studencka". 22.05 Dziennik.

**Środa, 12.III.**

8.55 „Antoni Iwanowicz gniewa się" — film fab. radz. 9.55 Dla szkół (kl. VII) Historia — „Komuna Paryska". 10.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Odwiedzamy jednostkę lotniczą Wojska Polskiego". 12.25 Przerwa. 14.55 Program dnia. 15.00 „Matematyka w szkole": „Liniowa algebra a nauka o wektorach w szkole". 15.30 i 22.45 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Jak dawniej mieszkano" cz. II („Klub pod Smokiem"). 17.20 „Telekram". 17.30 „Sami o sobie" („Człowiek a ziemia"). 17.55 TV Kurier Warszawski. 18.10 „Francesca da Rimini" — balet. 18.40 „Dialogi historyczne". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Pejzaże". 20.35 Studio Współczesne: H. Pinter — „Wieczór poza domem". 21.50 „Światowid". 22.20 Dziennik.

**Czwartek, 13.III.**

9.40 „Nie jesteś sam" — film fab. radz. 10.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „W jarzmie poddaństwa i pańszczyzny". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. XI) Język polski — „Przyboś — Gałczyński — Różewicz". 12.25 Przerwa. 12.45 i 14.55 Mechanizacja Rolnictwa: „BHP przy obsłudze maszyn". 13.20 Przerwa. 14.05 Program dnia. 15.30 i 22.25 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.50 TV Kurier Kielecki. 18.15 „Nad Odrą i Bałtykiem". 18.40 „Przegląd muzyczny". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Felieton literacki. 20.20 Teatr KOBRA: Z. Safian — „Dwa wyroki". 21.30 „Refleksje". 22.00 Dziennik.

**Piątek, 14.III.**

10.00 „Mój drugi ożenek" — film fab. pol. 11.15 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.10 „Wybieramy zawód". 15.30 i 22.15 Politechnika TV I roku. 16.05 i 22.50 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: Kino „Ptyś". 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka". 17.15 TV Kurier Mazowiecki. 17.30 „Nie tylko dla pań". 17.50 „Sylwetki X Muzy" — Magdalena Zawadzka. 18.20 Wszechnica TV: „Nasi uczéni". 18.50 „Definicje" — teleturniej. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Czwarta zmiana". 20.35 Teatr TV: A. Kołomyjec — „Speranza, to znaczy nadzieja". 21.45 „10 minut recenzji'. 21.55 Dziennik.

**Sobota, 15.III.**

9.25 „Maria' — film fab. czechosł. 10.55 Dla szkół: (kl. V) Geografia — „Nad Amazonką". 11.25 Przerwa. 15.30 Program dnia. 15.35 TV Kurs Rolniczy: „Prawidłowe przygotowanie materiału siewnego". 16.10 Program tygodnia. 16.35 Dziennik. 16.45 Teatr Młodego Widza: N. Rolleczek — „Zegar minionego czasu". 17.45 „Spotkanie z przyrodą". 18.10 „Wspomnienia znad morza" — film bułg. 18.20 „Warszawa, ja i Ty". 18.55 „Gawędy o współczesności'. 19.20 „Dobranoc" 19.30 „Monitor". 20.10 „Gra i śpiewa „Kanon-Rytm" — program rozrywkowy. 21.00 „Almanach". 21.30 Dziennik. 21.45 Wiadomości sportowe. 21.55 „Anioł zagłady" — film fab. meksyk. (Kino Interesujących Filmów).




**Piątek, 7 marca**

14.25 Program dnia. 14.30 „Panorama nowin". 15.00 Program poświęcony Międzynarodowemu Dniu Kobiet. 18.30 „Sztafeta nowin". 19.15 TV teatr miniatur. „Trzynaście krzeseł". 20.25 „Klub miłośników pieśni". 21.25 „Tylko fakty". 21.35 „Koncert artystów estrady greckiej".

**Sobota, 8 marca**

8.00 Program rozrywkowy. 8.30 „Wiedza". 9.00 Filmy animowane dla dzieci. 9.30 Koncert wychowanków przedszkola Nr 3 Mińska. 10.00 „Gwiazdy". Przegląd TV. 10.30 „Niespodzianka dla dziewcząt". 11.00 „Osiem spotkań". 11.30 TV teatr dla dzieci. 13.15 Dziennik. 13.30 Dla żołnierzy. 14.10 „Szkatułka muzyczna". 14.20 „Ekran i czas'. Almanach TV. 15.30 „Jeszcze raz o miłości". Film fabularny. 17.00 „Tydzień planety". Przegląd międzynarodowy. 17.30 „Przy płomyku". 18.30 „Świat socjalizmu". 19.00 Mistrzostwa Europy w lekkiej atletyce. (Jugosławia). 20.00 TV barwna. 21.00 „Tylko fakty". 21.10 Koncert.

**Niedziela, 9 marca**

8.00 „Kiosk muzyczny". 8.30 „TV punkt agitacyjny". 9.30 „Nauka zwyciężania". 10.15 Dla uczniów. 10.35 Film animowany dla dzieci. 10.45 „Wiejska godzina". 11.45 Dla żołnierzy. 12.15 Balet. 14.15 „Czas'. 14.45 TV barwna. 17.15 „Siedem dni". 18.00 „Kronika życia muzycznego republiki. Rok 1949". 19.00 Mistrzostwa Europy w lekkiej atletyce. 20.00 „Honor kapitana". Film TV. 21.00 „Tydzień sportowy".

# ◆ ВЕРА ВЯРБА ◆

**Вера Вярба (Маркава) нарадзілася ў 1942 годзе ў мястэчку Талачын, Віцебскай вобласці. Аўтар зборнікаў вершаў «Вочы вясны» і «Белыя пісьмы». Вершы, якія прапануем увазе чытачоў, мы ўзялі з апошняга зборніка.**



✲

У полі гойдае вятрыска
І долу каласы схіляе,
А маладзіца над калыскай
Дзіцёнку ціхенька спявае.

Ад песні гэтае народнай
Ўсё пачынаецца на свеце.
Напеў душы яе свабодны
Разносіць, як насенне, вецер.

І цераз горы і дубровы
Ва ўсе замежныя краіны
Цячэ майго народа мова,
Як гонар дарагой айчыны.

Хай на зямлі шмат ісцін спрэчных:
Любоў, і шчасце, і багацце,
Але адно, я знаю, вечна —
Святое слова нашай маці.

## РОДНАЯ ЛІТАРАТУРА

### КАРАБЛІ

Адплываюць караблі далёка
Ціхім шляхам вулачак крывых
З маставых пад сінія аблокі,
Ў акіян зялёнае травы.
Лёгка ім ад бруку адарвацца.
Затрымціць нацятая сасна.
Адплываюць марамі юнацтва
Караблі, як ранняя вясна.
Шчасна ім і не шкада нічога
Ў маладыя юныя гады.
Рассцяліся, новая дарога, —
Адплываюць белыя сады.
Не дагнаць ні словам іх, ні ветрам.
Не глядзіце з горыччу ўслед.
Хай удача прывядзе і ветразь
Ў самы светлы, самы добры свет.
Хай спаткае іх такая доля,
Папракнуць каб потым не змаглі,
Бо назад не вернуцца ніколі
Ў родны горад тыя караблі.

✲

Усё ў жыцці здаецца проста,
На ўсё вы знойдзеце прычыны.
Як гэта цяжка быць дарослай,
Як гэта цяжка быць жанчынай.

Насустрач плёткам і абразам
Пранесці горда твар прыгожы,
Затое быць з каханым разам,
І ў гэтым толькі шчасце, можа.

А потым старасць, потым восень,
Хаваеш першыя маршчыны.
Хоць у вачах ўсё тая просінь,
Ды сэрца ные без прычыны.

Дачка сама адрэжа косы,
І расказаць ёй немагчыма,
Як будзе цяжка жыць дарослай,
І ў колькі раз цяжэй — жанчынай.

✲

Сябе як помню ад калыскі —
У нас вялікая сям'я,
Але была карова Лыска
Адна карміліца мая.

Усю вайну мяне паілі
Салодкім, смачным малаком.
Суседзі потым гаварылі:
— Ну дзеўка, вырасла, як ком.

Аб ёй адной жылі здаровы
І, як надзею, бераглі
Амаль адзіную карову
На сто двароў, на сто сяліб.

Ледзь набрынялі гронкі бэзу,
Каб немец не напаў на след —
Карову вырашыў зарэзаць
І натачыў касу мой дзед.

Сусед, глынуўшы самагонкі,
Пачаў жывёліну хваліць,
І цётка, бразнуўшы даёнкай,
Пайшла ў апошні раз даіць.

Ды зразумела наша Лыска
Смяротны час сваіх жалоб,
Глядзіць у вочы блізка-блізка,
А слёзы коцяцца, як боб.

І адступілі ціха людзі
На двор пад весні маладзік,
Так болем надарваў ім грудзі
Цягучы развітальны рык.

### РАЗУМЕННЕ

Нібы глыбіннае свячэнне,
Душы маўклівае агонь.
Усё зямное азначэнне —
Твая сяброўская далонь.

Я — за такое разуменне,
Якому верыш толькі раз.
Яго чакаеш, як збаўлення,
Пытанне носіш, як адказ.

Усё праходзіць, як імгненне...
І мучыць горкая віна:
За годы непаразумення —
Хвіліна ісціны адна.

✲

На пачатку маладосці мілай
Не хачу чужых перасцярог, —
Не лічыце дарагіх памылак,
Не шукайце для мяне дарог.

Каб самому блізка ўбачыць неба,
Каб запомніць родную зямлю,
Навучыцца самастойна трэба
Маладому лётаць жураўлю.

Ад лясоў, ад берагоў зялёных
Я прыму і шчасце, і бяду, —
Толькі тыя, што мае да скону,
Толькі тыя, што сама знайду.

**На старонках лютаўскага нумара**

## ПОЛЫМЯ

Тэма асноўных матэрыялаў — вайна. А дакладней: беларускія партызаны. Ім прысвечана новая аповесць Васіля Быкава «Круглянскі мост», якая і адкрывае нумар. Як заўсёды ў Быкава, востры канфлікт, у якім праяўляюцца характары людзей. Быкаў адкідае рамантычную заслону, якая часта ў падобных выпадках адгароджвае нас ад складнасцей жыцця. Партызаны Быкава — нармальныя людзі, з уласцівымі ім добрымі і заганнымі бакамі. Быкаў змагаецца за гуманныя якасці ў чалавека.

З партызанскай тэмы таксама паэма Рыгора Барадуліна «Блакада» і ўспаміны партызанскага камандзіра Івана Шубітыдзе «За вашу і нашу свабоду». Апошняе асабліва павінна зацікавіць нашых чытачоў. І. Шубітыдзе расказвае аб баявой дружбе беларускіх і польскіх партызан. «З франтавога блакнота» — такі падзагаловак успамінаў Якава Герцовіча «На вайне як на вайне».

Гаспадарчым дзеячам і сялянам раім прачытаць цікавы артыкул Васіля Еўціхевіча п.з. «Шануйце родную зямлю», у якім ідзе гутарка аб гэтак званай эрозіі зямлі. «Звычайна з'яўленне раваў на палях, пашах ці на якіх іншых землях азначае, што гэтыя землі выкарыстоўваліся з празмернай інтэнсіўнасцю альбо няправільна», — гаворыць аўтар і лічыць няправільным погляд, які ўсе прычыны эрозіі зводзіць да няўмольных сіл прыроды. Эрозія — паводле яго — вельмі часты вынік безгаспадарчых адносін чалавека да зямлі і няправільнага выкарыстання сельскагаспадарчых машын, вынік незахавання элементарных «правілаў бяспекі» пры карыстанні зямлёю. У доказ гэтага аўтар прыводзіць шэраг фактаў і лічбаў. Паводле няпоўных звестак, у Беларусі плошча зямель, папсаваных равамі, складае каля 40 тысяч гектараў, а разам з ярамі, ямамі, кар'ерамі — каля 800 тысяч гектараў. Штогод страта ад эрозіі глебы дасягае ў народнай гаспадарцы краіны амаль чатыры мільярды рублёў.

«Практыкаю Беларускага навукова-даследчага інстытута глебазнаўства даказана, што пры ворыве на забліва, а таксама пасеве пшаніцы ўпоперак схілу змыванне глебы змяншаецца амаль у чатыры разы, — піша В. Еўціхевіч. — Але гэтага ў многіх гаспадарках не робяць, бо пры такой апрацоўцы затрачваецца больш бензіну і працы. Людзі забываюцца на тое, што эрозія абыходзіцца ў шмат разоў даражэй. Такая «эканомія» па-навуковаму называецца прымітыўным меркантылізмам — імкненнем узяць сёння рубель, нават калі заўтра страціш на гэтым дзесяць рублёў. Кажуць, такі спосаб эканомікі быў папулярны пры Іване Каліце. Але ўжо ў часы Пушкіна людзі чыталі Алама Сміта і ведалі, як «дзяржава багацее». Дзе-якія сённяшнія меркантылісты, якія чыталі не толькі Пушкіна, але, мяркуючы з іх дыпломаў, і Маркса, пазіцый не здалі. Такія людзі жывуць толькі сённяшнім днём, не клапоцячыся пра тое, што будзе заўтра. «Трэба выціснуць з зямлі ўсё, што яна можа даць сёння» — вось дэвіз такіх кіраўнікоў гаспадаркі.

Выціснуць усё — значыць нічога не пакінуць патомкам, а гэта ўжо злачынства».

Настаўнікам беларускай мовы і наогул людзям, якіх цікавяць літаратурныя працэсы, прапануем прачытаць удумлівы артыкул Алеся Адамовіча п.з. «Шырыня пісьменніцкага свету», у якім аўтар выказвае арыгінальныя погляды на беларускую літаратуру. Глядзіць ён на яе праз прызму літаратурных з'яў і працэсаў 60-х гадоў.

**Ювэ**

У ПОШУКАХ ШЧАСЦЯ




Было гэта ў адзін з марозных лютаўскіх дзён. Утуліўшы нос у каўнер кажуха, спяшаўся я дахаты. Была трэцяя гадзіна пасля абеду, і народ тлумна імчаўся з цёплых пакояў сваіх устаноў у такія ж цёплыя пакоі ў сваіх хатах, на цёплыя абеды. У горадзе ўсе спяшаюцца. Асабліва пасля трэцяй гадзіны, калі канчаецца праца ва ўстановах.

— Перапрашаю пана!

Я затрымаўся. Адазваўшаяся жанчына мела ў руках элегантную, але цалкам знішчаную ўжо сумку, такую, якую гарадскія сваячніцы пасля змены моды пераказваюць на вёску. Апранута была па-вясковаму.

— Перапрашаю пана, — паўтарыла. — Я хацела нешта запытаць.

— Калі ласка, — сказаў я.

— Хацела запытаць, дзе тут школа, у якой вучаць майстраваць?

— Майстраваць? Што майстраваць?

— Бо я ведаю. Там усяго вучаць. Я, бачыце, маю такую бяду. Я прыехала да сястры, яна жыве на Магілёўскай вуліцы. Заходжу дахаты, а там нічога няма, абрусак на крэсле заложаны, на акне мёд і...

— Можа выйшла ў краму, — сказаў я нецярпліва.

— А дзе ж там. Я пасядзела даўжэй. Хіба з паўгадзіны, і няма.

— То зайдзіце яшчэ раз, — параіў я.

— Ці ж я магу да яго ісці пасля гэтага ўсяго?

— Пасля чаго?

— То ж ён сказаў, што вогуле не хоча бачыць мяне ў сваёй хаце. Гэта значыць яе муж. Я да яго запростая, вясковая. А як у бальніцы тады ляжаў, то я штотыдзень прыязджала яго наведаць. Прывязу, бывала, нешта, заўсёды. А цяпер бачыце, ён...

— То пра што вам канкрэтна разыходзіцца? — запытаў я больш рашуча.

Жанчына зрабіла таямнічую міну і пачала гаварыць цішэй:

— Як вам тут растлумачыць. Ну, ён такі нядобры чалавек, а яна ж мая сястра. Хацела даведацца пра яе. Заходжу, а яе няма дома і не вядома дзе шукаць і што рабіць.

— То вы зайдзіце ў міліцыю, — сказаў я ўзрадаваўшыся, што ўрэшце ўдалося мне знайсці талковы адказ, які можа закончыць размову.

Жанчына раззлавалася.

— У міліцыю? Ці ж я пайду дакладваць у міліцыю на сваю сястру, ды на швагра, які б ён там і не быў. Якія ж вы дзіўныя.

— То чаго вы шукаеце нейкай школы?

— То ж я кажу. Там жа вучыцца яе сын. Во, вы скажыце мне, дзе тая школа.

— А як яна называецца?

— Ці я ведаю, як называецца? Там рамантуюць усё: радыё і вось такія розныя іншыя рэчы.

— Так без назвы то мне цяжка сказаць, — заявіў я, пераступаючы нервова з нагі на нагу.

Жанчына паглядзела на мяне з расчараваннем.

— Бачу, — сказала ўрэшце, — што і пан нічога тут не ведае ў Беластоку. Ну, што зрабіць.

Перайшла на другі бок вуліцы і затрымала нейкую элегантна апранутую жанчыну. З паставы і жэстаў было відаць, што пачала тую самую, што і са мною, размову. Не веру, аднак, каб на гэтай марозлівай, спешнай вуліцы ўдалося ёй знайсці кагосьці, з кім звычайна, па-чалавечы можна было б пагаварыць ды параіцца ў сваіх справах. У справах не такіх вялікіх і не такіх трагічных, як тыя, аб якіх даносіць міліцыйная хроніка ў газетах. Аб справах звычайных, чалавечых, аб якіх чалавек з чалавекам заўсёды раіўся і расказваў у чалавечай вясковай супольнасці.

**Рыгор Паўлюк**

## БГКТ

*Пачатак на стар. 1*

У 1968 годзе было сабрана 300 новых экспанатаў для этнаграфічнага музея ў Белавежы. Зараз музей налічвае 815 экспанатаў. Наведала музей больш 6000 чалавек, у гэтым ліку 420 асоб з іншых краін (пераважна турысты).

### РЫХТУЮЦЦА ДА АГЛЯДУ

Многія аматарскія калектывы моцна рыхтуюцца да агляду мастацкай самадзейнасці нацыянальных меншасцей Беласточчыны, які арганізуе Аддзел культуры ваяводскай рады нарадовай. Між іншымі драмгурток з Мілейчыц рыхтуе п'есу пад загалоўкам «Нарачоныя», моладзь Паўлаў — савецкую п'есу «У пісанні было сказана», а аматары з Гарадка — цікавы мантаж «Чатыры пары года».

Успомнены агляд будзе папярэджаны павятовымі аглядамі, якія арганізуе ў красавіку Беларускае таварыства.

### ВІКТАР ШВЕД

Наш паэт Віктар Швед у мінулым, 1968 годзе ўдзельнічаў у 61 аўтарскай сустрэчы. Звыш 2000 штук свайго зборніка вершаў «Жыццёвыя сцежкі» падпісаў ён для школьнікаў, моладзі і старэйшых жыхароў вёсак і мястэчак Беласточчыны.

### ГАРАДСКІЯ ГУРТКІ

У мінулым у гарадскіх гуртках БГКТ у Беластоку і Саколцы адбываліся сходы, арганізоўвалася клубная праца. Ад даўжэйшага часу нічога там не дзеецца. Усё заціхла, заглохла. А шкада. Ёсць да гэтага добрыя ўмовы. Бо і памяшканні аддзелаў і іншыя месцы можна выкарыстаць і актыву тут хапае. А можа дзейнасць гарадскіх гурткоў у Саколцы і Бельску актывізуе справаздачна-выбарчая кампанія, новыя праўленні? Варта ўзяць прыклад з падобных гурткоў у Гайнаўцы і Мілейчыцах, дзе ўвесь час праводзіцца культурна-асветная праца.

(мх)

 

# Аляксей Матэнька

Прафесія селяніна з'яўляецца найбольш складанай. Ён і жывёлагадоўца, ён вырошчвае і збожжа, і гародніну, ён і садавод і г.д. Можна было б налічыць вельмі многа спецыяльнасцей для гаспадара. Гаспадарка свайго роду прадпрыемства, а гаспадар у адной асобе і дырэктар, і інжынер, і бухгалтар, і тэхнік, і рамонтнік, і рабочы.

З кожным годам у шырокім маштабе селянін карыстаецца сучаснай механізацыяй. У сувязі з тым яму неабходныя шырокія веды. Свядомых, кваліфікаваных гаспадароў у нас усё больш. Да перадавых гаспадароў Бельскага павета адносіцца, між іншым, і Аляксей Матэнька.

Закончыўшы пачатковую школу пачаў ён пашыраць свае веды ў калектыве сельскагаспадарчай падрыхтоўкі (ПР). Тэарэтычныя і практычныя заняткі ўвенчаны былі паспяховым зданнем дзяржаўных экзаменаў. Аляксей Матэнька не стаў згаджацца з тым, што на адным га сенажаці, больш не накосім, як 20 цэнтнераў сена, а на полі вырасце (на адным га) 12—13 цэнтн. збожжа. І так, перш за ўсё заараў ён сваю сенажаць, пасля засеяў яе травою, як кажуць, належна загаспадараваў і пачаў падкормліваць траву мінеральнымі ўгнаеннямі. Глядзелі на яго з зацікаўленнем старэйшыя сяляне. І пасля пайшлі яго следам, таму што гэты малады гаспадар стаў накашваць 80—100 цэнтнераў сена з 1 га. А гэта ўжо нямала. Гэта проста рэкордныя ўраджаі.

Аляксей Матэнька атрыманыя веды ў ПР-ы стаў замяняць на цэнтнеры і тоны. Гэтак было і з ураджаем збожжа. Пачаў ён угнойваць поле мінеральнымі ўгнаеннямі, даючы іх належную колькасць пад паасобныя культуры. А пасля пачаў адквашваць глебу вапнаваннем. І цяпер адзін гектар дае яму 19—20 цэнтнераў збожжа. Значыць, Аляксей Матэнька павялічыў ураджай з аднаго гектара на 7 цэнтнераў. А каб у нашым і іншых ваяводствах усе сяляне дабіліся такіх ураджаяў, пабачылі б мы на колькі больш у нас было б збожжа. А гэта значыць, што імпарт збожжа для нашай краіны хутка быў бы непатрэбны. Вядомым ёсць, што не на кожнай зямлі, не ў кожным месцы аднолькава растуць тыя ці іншыя культуры. Каб быць цвёрда пераконаным, што пасеянае жыта, авёс, ячмень ці іншае мусіць даць добры плён, Аляксей Матэнька вядзе доследы на спецыяльных вопытных палетках. Сам выпрактыкоўвае, на якую глебу колькі трэба ўгнаенняў. Ён таксама вялікае значэнне прывязвае да ліквідацыі пустазелля. Ужо многа гадоў ён з'яўляецца перадавіком аховы раслін. Супольны конны апырсквальнік «Ольза» вясною ў яго ў поўным выкарыстанні. Ён запачаткаваў у павеце спырскванне бульбы хімічнымі прэпаратамі, якія знішчаюць стонку. Абслугоўваў ён вёскі Райск, Плюцічы, Храбалы і Сталовач. З яго ўзялі прыклад перадавікі аховы раслін з іншых вёсак і паспяхова спраўляюцца з ліквідаваннем гэтага знішчальніка бульбы.

Цікава пабываць у Аляксея Матэнькі і пабачыць яго забудаванні, яго працу. Перш за ўсё варта тут падкрэсліць навейшага тыпу хлеў, адзіны ў вёсцы, які і з вокнамі, і пасярэдзіне з шырокім калідорам, у які можна ўязджаць возам балонам. У загародах 3 каровы, дзве цялушкі, 5 штук свіней, прыгожы конь.

Усе работы ў яго механізаваны. Сечку і дровы рэжа пры дапамозе электрычнага матора. У хаце карыстаецца ўсімі электрычнымі прыладамі, у тым ліку і сціральнай машынай.

Летам думаў ён купіць тэлевізар, але параіўшыся з жонкай, купіў механічную даярку. Была гэта сенсацыя для ўсяе вёскі. Цяпер і іншыя гаспадары думаюць купляць такую самадаілку. Аляксей Матэнька многа кантрактуе збожжа, бульбы і іншых культур. Кантрактуе таксама ялаўкі і кормнікі. Довадам пашаны людзей да яго сведчыць той факт, што ў час выбараў быў выбраны жыхарамі грамады Храбалы на старшыню прэзідыума ГРН.

**Міхась Хмялеўскі**



*Пачатак на стар. 1*

тапорным). Усё прыцягвае вочы ігрой колераў.

Грампласцінку пакуль што можна купіць толькі ў ГП БГКТ у Беластоку, вул. Варшаўская 11 асабіста і на пісьмозыя заказы так званым «паштовым залічэннем». Кошт 50 зл.

Адзіная крыніца пакупкі грампласцінкі, якой з'яўляецца ГП, зразумела перашкаджае распаўсюджванню яе сярод шырокіх кругоў зацікаўленых і любіцеляў. Трэба зрабіць усё, каб грампласцінка знайшлася ў музычных крамах краіны і ваяводства, у кнігарнях, якіх многа збудавалася на Беласточчыне не толькі ў паветах, але і меншых гарадах. Трэба б выкарыстаць добрае супрацоўніцтва з бібліятэкамі, якія ў набліжаючыеся Дні асветы, кніжкі і прэсы могуць прыгожа выэкспанаваць грампласцінку на выстаўках, а таксама з грамадскімі цэнтрамі культуры, якія, маючы адаптары, змогуць дасканала з карысцю для сябе і пласцінкі рэкламаваць яе і арганізаваць кірмашы. Добра было б задбаць пра хоць адзін плакацік, які інфармаваў бы пра пласцінку і дзе яе купіць. Не думаю, каб змова маўчання вакол грампласцінкі памагла для яе папулярызацыі і продажу.

## ПЕСНЯ ЖЫЦЬ І ЛЮБІЦЬ ПАМАГАЕ

Хачу яшчэ падкрэсліць асветны характар грампласцінкі БГКТ. І пачну ад сцверджання, што грамадскі рух, пад якім разумеем розныя формы культурна-грамадскай дзейнасці, у беларускім асяроддзі даволі аднародны. Пераважаюць так званыя драмгурткі, якія ў дабавак працуюць з рэпертуарам, далікатна кажучы, не найлепшым. Сярод беларускіх калектываў няма зусім танцавальных, няма зусім тэатраў паэзіі. Рэдка вакальныя, і то ўжо званыя харамі. Ніхто па сутнасці не працуе з песняй, хоць вядома, што людзі на вёсцы з песняй жывуць. Прычына мо ў тым, што замала ўвагі звяртаем на развіццё вакальных форм у мастацкім руху і што няма (і нават ГП БГКТ не занялося выдаваннем) песеннага рэпертуару для мастацкіх калектываў.

Прапануемая грампласцінка «Беларускія народныя песні» недахоп гэты можа ў пэўным сэнсе папоўніць, бо з грампласцінкі лёгка навучыцца песні (не трэба ведаць нот), а так здольным у песні людзям, якія жывуць на Беласточчыне, зусім няцяжка дабраць другі голас т.зв. утор. Пераплесці песні вершамі — і праграма гатова, праграма, з якой не сорамна паказацца на любой сцэне, а якая і ў роднай вёсцы спадабаецца. Мару аб такой праграме ў выкананні амбітнага вясковага гуртка, напрыклад, са Скупава, Чыжоў, Мілейчыц, Страшава, Гарадка і гэтак далей. І аж верыць перастала, што ўбачу дзесяты раз бесталковага «Мікітавага лапця» і яму падобныя камедыйкі.

Яшчэ раз паўтараем загалоўкі песень запісаных на грампласцінцы «Беларускія народныя песні» ў выкананні М. Забэйды-Суміцката, а ў музычнай апрацоўцы найлепшых беларускіх кампазітараў:

**А. Туранкоў** — Ай, мама, мама, чаго я плачу.

**А. Грачанінаў** — Ой, рана, рана куры запелі.

**С. Казура** — Чырвоная калінанька.

**А. Грачанінаў** — Конь бяжыць, зямля дрыжыць.

**К. Галкоўскі** — Ой, дождж ідзе.

**А. Туранкоў** — Каліна.

**К. Галкоўскі** — Кукавала зязюля.

**А. Пэк** — Калыханка.

**М. Карасеў** — Хлопец пашаньку пахае.

**С. Казура** — Малады дубочак.

**А. Грачанінаў** — Шчука рыба ў моры.

**Вера Леўчук**



Кулік.



Фота. Р. Сенька

**З метадычнай паліцы настаўніка**

## Вершы „Песняру“ і „Мужык“

Пры вывучэнні вершаў «Песняру» і «Мужык» спачатку стараемся прачытаць самі, або даручаем лепшым чытальнікам-вучням. Затым высвятляем, ці разумеюць і як разумеюць вучні паасобныя радкі, выражэнні, словы вершаў. Скажам, якую «няволю» («Песняру») мае на ўвазе паэт, як вытлумачыць «дух заскаруз», «гічан» («Мужык») і т.д. Прачытваем вершы і паўторна пракаменціруем іх: «Няволя» — жыццё ў царскай Расіі, «заскарузнуць духам» — зміріцца з гэтай няволяй, «гічан» — у мясцовых гаворках назва націны бульбы, буракоў.

Далейшы ход урока можа выглядаць так. Як вы думаеце, дзеля чаго паэт напісаў верш «Песняру»? Правільна, каб выказаць свой погляд на мастацтва, у прыватнасці, на паэзію і на ролю паэта ў жыцці людзей. Аб кім і аб чым жа павінен пісаць паэт? Аб народзе, аб тым, як «у няволі жывецца», як «нам шыі здушыла ярмо», «...як жыццё прападае дармо». А якой павінна быць песня паэта? Адказ знойдзеце ў тэксце. Згодзен, яна павінна «паліць душу», «жахаць маланкай», «грымець, як гнеў перуна». Як па-вашаму, для чаго патрэбна была такая паэзія? Каб заклікаць і весці людзей на штурм самаўладства, да рэвалюцыйнага пераўтварэння жыцця. Тут можна правесці параўнанні між Я. Коласам, а іншымі паэтамі, а асабліва польскімі, аб уплывах, адных на другіх і т.п.

Вывучаючы далей верш «Песняру» просім вучняў аб сфармуліраванне яго тэмы і ідэі. Тэма: паэт і народ, ідэя: сапраўдная паэзія — праўдзівая, баявая, а паэт — палымяны трыбун і народны важак. Давайце памяркуем, ці можа песня «паліць душу», «жахаць маланкай»? Як называецца такі выяўленчы сродак, калі ўласцівасці адной з'явы пераносяцца на другую, чым-небудзь падобную да першай? **Метафарай.** Знайдзіце яе яшчэ ў вершы. Ці звярнулі ўвагу на тое, якая часціна мовы найчасцей ужываецца ў вершы? Так, дзеяслоў. Чаму? Таму, што ён дазваляе паэту найлепш выказаць у гэтым вершы-звароце, вершы-пасланні, заклік, просьбу і, калі хочаце, часткова нават загад.

Звернемся да верша «Мужык». Праслухайце яго... Як вы маглі б заўважыць, у ім надзвычай пераканальна, грубавата-суровымі, але дзейснымі словамі намалявана становішча мужыка, у вобразе якога ўвасоблена ўсё беларускае сялянства. Мужыка пастаянна «ўшчуваюць», «цягнуць кроў з яго і жылы», у яго «мазольная рука», ён не даядае і не дасыпае. Не дзіўна таму, што знешні выгляд селяніна такі несамавіты: лахманы, лапці, уздуты гічанамі жывот. Але чытач сімпатызуе гэтаму чалавеку. І не толькі таму, што ён не вінаваты ў сваёй так сказаць «нялюдскасці». А галоўным чынам таму, што герой верша не схіліўся перад лёсам жыцця, ён не зламаў яго. Сваю чалавечую годнасць селянін захаваў. Больш таго, у канцы верша ён не двухсэнсоўна заяўляе:

Я — мужык, а гонар маю,
Гнуся, але да пары.
Я маўчу, маўчу, трываю,
Але скора загукаю:
«Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!»

Ці заяўлялі, ці маглі заявіць такое героі вершаў Ф. Багушэвіча? Не, бо яны не жылі ў 1909 годзе (час напісання верша «Мужык»), не былі разбуджаны першай рускай рэвалюцыяй, якая выклікала ў сялян неадольнае жаданне «людзьмі звацца». Багушэвічаўскія мужыкі толькі наракалі на лёс, толькі скардзіліся; сяляне ж Я. Купалы і Я. Коласа ад скаргаў пераходзяць да зброі. У гэтым і заключаецца адрозненне дэмакратычнай паэзіі Ф. Багушэвіча ад рэвалюцыйна-дэмакратычнай паэзіі яго вялікіх пераемнікаў.

**АК**

## М. КАНАПАЦКІ — КІРАЎНІКОМ ТПА Ў ГДАНЬСКУ

Шмат гадоў існуе ў нашай краіне ўсходазнаўчае Таварыства польскіх арыенталістаў (ТПА), якое ганарыцца значнымі ўжо навуковымі дасягненнямі і добрымі вынікамі ў папулярызатарскай дзейнасці. Да ліку выдатных польскіх арыенталістаў належыць праф. др І. Рэйхман.

Дзейнасцю арыентальната Таварыства зацікаўлена таксама татарска-мусульманскае насельніцтва. Адзін з найбольш актыўных гурткоў гэтага Таварыства знаходзіцца ў Гданьску, стаючыся ініцыятарам намаганняў па ўтварэнне лектарата ўсходніх моў у якасці філіяла аднаго з універсітэтаў. Кіраўніком гданьскага гуртка з'яўляецца мгр Мацей КАНАПАЦКІ, сардэчны сябар «Нівы» і былы яе таленавіты журналіст, першы загадчык Рэдакцыі Беларускіх радыёперадач у Беластоку. Ён аўтар шматлікіх публікацый у галіне ўсходазнаўчай праблематыкі, дыспануе шырокімі сувязямі з замежнымі вучонымі м. ін. праф. Антонам Антановічам, даследчыкам усходазнаўчай праблематыкі ў Беларусі.

Працы Канапацкага публікуюцца і за граніцай. Апошнім часам выйшла ў Парыжы яго праца «Les Musulmans en Pologne». Зараз Канапацкі рыхтуе ў друк працу, якая будзе апублікавана ў амерыканскім навуковым зборніку.

Мацей Канапацкі з'яўляецца дзеячам мусульманскага асяроддзя ў краіне і таленавітым маладым вучонымарыенталістам.

(ся)

 




Саюз змагароў за свабоду і дэмакратыю (ЗБоВіД) налічвае на Беласточчыне 7361 членаў (даныя на 31. XII.1968 год). ЗБоВіД за апошнія чатыры гады падвоіў свае рады. Гэтая арганізацыя вядзе вялікую палітычную работу. Яе шматлікія акадэміі, сустрэчы, урачыстасці з нагоды гадавін і апекі над месцамі пакутаў і магіламі загінуўшых людзей ад гітлераўцаў і ў абароне народнай улады — заўсёды з'яўляюцца свайго роду ўрокамі патрыятычнага выхавання.

Шмат ЗБоВіД-аўцаў выконвае дзяржаўныя і грамадскія функцыі, шмат было выбраных раднымі розных узроўняў.

І так, на Беласточчыне адзін член ЗБоВіД з'яўляецца паслом, 7 — раднымі ВРН, 31 — раднымі ПРН, 44 — раднымі гарадскіх рад нарадовых і 47 — ГРН.

ЗБоВіД дапамагае сваім членам у многіх справах, многім дапамагае матэрыяльна. Прывядзем тут некалькі прыкладаў. І так, у 1964 годзе Акруговае праўленне ЗБоВіД уладзіла 1917 розных спраў, у 1965 годзе — 2050, у 1966 годзе — 2174, у 1967 годзе — 3968 (за 1968 год няма дакладных дадзеных).

За мінулыя чатыры гады Акруговае праўленне ЗБоВіД атрымала ад Галоўнага праўлення ЗБоВіД датацыі на запамогі ў суме 2.776.200 зл. За гэты перыяд атрымала запамогі 2.712 чалавек. Апрача таго 85 асоб, членаў ЗБоВіД, атрымала зваротныя пазыкі на суму 414000 зл. Скарыстала з санатарыйнага лячэння 267 асоб. Акруговае праўленне ЗБоВіД — выдала 1.492 кніжкі, якія даюць права карыстаць з льготаў медыцынскай апекі для сялян і рамеснікаў. У гэтым самым часе 164 асобы атрымала пенсіі і для 260 асоб прызнаны пастаянныя запамогі.

Варта падкрэсліць, што Акруговае праўленне ЗБоВіД у Беластоку вядзе выдавецкую дзейнасць. Выдадзены гістарычны альбом пад загалоўкам «Беластоцкая зямля напамінае» — Аляксандра Амільяновіча. У мінулым годзе выдадзена кніжку Зыгмунта Кашты лы «Верасень на Беласточчыне 1939 года». Падрыхтавана да друку даведнік з картай, які паказвае нямецкія злачынствы на Беласточчыне.

Нядаўна адбылася справаздачная канферэнцыя, якая падсумавала 4-хгадовую дзейнасць ЗБоВіД на Беласточчыне і выбрала дэлегатаў на IV кангрэс.

Прэзасам Акруговага праўлення ЗБоВіД з'яўляецца палкоўнік Ян Анацік, а ўрадуючым намеснікам прэзаса — Аляксандр Гуцянцаў. (МХ)

## ВАЯЎНІЧЫ БАРАН

Анна Патар — старая жанчына з Гайнаўкі. Ляжыць яна ў пасцелі ўжо некалькі месяцаў. Мае паламаныя косці на нагах, якія вельмі павольна зрастаюцца. Было гэта позняю восенню. Пайшла яна надвячоркам адвязаць авечкі. Апошняга хацела адвязаць рагастага барана. І той баран, убачыўшы, што авечкі пабеглі, кінуўся на старушку і з разбегу стаў рагамі біць яе. Збіў з ног і пабіў ёй галаву, рэбры, ногі. Каб яна не адкацілася далей (баран быў прывязаны), ён забіў бы яе.

І так, да сёння пакалечана бараном Анна Патар цяжка хварэе. Праўда, барана за разбойства пакаралі смерцю. (мх)

Рамеснае першае месца

## НЕКАЛЬКІ СЛОЎ ШЧЫРАСЦІ

Беласточчына шмат у чым займае першае месца ў краіне, напрыклад, па тэмпах росту рамесных паслуг. Бо 63 працэнты гарадскога насельніцтва Беластоцкага ваяводства — гэта жыхары мястэчак. У 1960 годзе налічвалася 5.465 рамесных майстэрняў, а ў канцы 1968 года — ужо 7.057 майстэрняў. На тысячу майстэрняў больш паявілася ў вёсках і мястэчках, якія не маюць гарадскіх правоў.

Праўдзівым крывацёкам, які можа ў будучым смяротна паслабіць рамяство, гэта ўцёкі вучняў, хлопцаў і дзяўчат, у вялікую і сярэднюю прамысловасць, дзе ўдзень працуюць яны на дзяржаўнай пасадзе, а ўвечары займаюцца нелегальным рамяством па сваёй прафесіі (краўцы, слесары і т.д.) Добрыя спецыялісты штораз больш патрэбныя!

Спосабам, які ў значнай меры здолеў бы паўстрымаць гэту нездаровую рамяству з'яву, трэба лічыць мацнейшае чым дагэтуль забеспячэнне інтарэсаў майстра. Менавіта, вучань, якому захочацца — уздумаецца спыніць далейшую практыку ў свайго майстра, каб «зрабіць скок» на дзяржаўную пасаду, павінен сплаціць затраты, зробленыя майстрам дзеля прафесіянальнай адукацыі вучня. Затраты немалыя.

Іншай небяспекай, пагражаючай здароваму развіццю рамяства, з'яўляецца залішняе зацікаўленне многіх рамеснікаў гандлёвымі інтарэсамі, што спрыяе ўзнікашню фінансавага азарту, пагоні за «вялікімі грашыма». На тым церпіць аўтарытэт рамяства, добрае імя прафесіянальнай яго сумленнасці. Прытым, адбываецца гэта ва ўмовах, калі ўлады з усіх сіл падтрымліваюць рамяство, большасць рамеснікаў звольнена ад падаткаў (пры абаротах да 50 тыс. зл.), што нельга інакай назваць, як злоўжываннем аказанага ім, рамеснікам, даверу. (ся)



У конкурсе «Крынкам 400 год» першае месца заняла Ганна Піцэвіч — поціск рукі на шчасце ад сакратара грамадскай рады Мікалая Пуцілоўскага. У сярэдзіне старшыня ГРН Г. Апунік. Фота: М. Хмялеўскі

## Крынкаўскае свята

Пачаліся святкаванні Чатырохсотгоддзя Крынак. Першая ўрачыстасць адбылася ў суботу, 15 лютага, у мясцовай грамадскай святліцы. Пра даўняе мінулае Крынак расказаў Янак ПУЛЬ, вялікі энтузіяст іх і гісторык-аматар. Гутарку аб перспектывах і развіцці мястэчка меў старшыня Грамадскай рады Генік АПУНІК.

У конкурсе «Крынкам 400 год» першае месца заняла Ганна Піцэвіч, другое месца — Раман Яновіч і трэцяе — Ганна Яновіч.

У атмасферы суседскай дабразычлівасці адбылася дыскусія аб тым, што трэба зрабіць, каб годна ўшанаваць крынкаўскае свята.

Будзе ўтвораны грамадскі камітэт святкавання Чатырохсотгоддзя, у склад якога ўвойдуць прадстаўнікі ўсіх масавых грамадскіх і палітычных арганізацый. Дзейнасць камітэта разгорнецца па двух паралелях: каардынаванне «чынавых» ініцыятыў і пачынанняў культурна-асветнага характару. Першай справай з'яўляецца будова купальнага басейна, паважная інвестыцыя, якая патрабуе сур'ёзнага падыходу крынкаўчан, іх самаахвярнасці. Дакументацыйныя фармальнасці амаль уладжаны ўжо, засталося брацца за работу. Яшчэ кароль Зыгмунт Аўгуст напамінаў крынкаўчанам, што павінны яны будаваць і добрыя вуліцы, і дарогі, і лазню ўсім. Будова лазні адцягалася з году ў год, добры настаў час фіналізаваць яе. Рамонт вуліц адбываўся ўжо некалькі год, сёлета набярэ асаблівага размаху. Як пазнаюць пана па халявах — так горад па вуліцах. Зялёныя вуліцы, абсаджаныя дрэвамі, надалі б мясціне хараства, падкрэсленага архітэктурным багаццем: атыкай сінагог, стройнай готыкай і візантыйскім спакоем.

Культурна-асветная дзейнасць у юбілейны год — гэта даклады, дыскусійныя вечары, сустрэчы з цікавымі людзьмі, выстаўка гістарычных матэрыялаў і выданняў, якія датычаць мінулага Крынак, запрашэнне мастакоў у Крынкі на пленер, арганізаванне мастацкай самадзейнасці, конкурсаў, канцэртаў, спартыўных гульняў і т.п. Добры пачатак такім ініцыятывам даў Янак Пуль і яго прыяцелі — Мікалай Яновіч, камендант МО Ян Троцкі, Раман Яновіч, Ірэна Скроўба, Тэрэса Затоўка, Францішак Бах, Грыша Піцэвіч, Вітальд Ціpук (вучань 7-га класа) і многія іншыя. Хлопцы і дзяўчаты пераняліся добрай справай і за гэта належацца ім не толькі словы падзякі, але падтрымка.

Гаворачы аб Крынках, адразу думаецца аб мясцовай гарбарнай прамысловасці, якая займае вядучае месца ў краіне. Так павялося, бо гарбары былі і ёсць соллю гэтага мястэчка. Тут амаль у кожнай другой сям'і хтосьці працуе ў гарбарні, а будзе яшчэ больш: будуецца новая гарбарня. Кіраўніцтва гарбарні апрацоўвае свой план удзелу ў святкаванні. Гэта невыпадкова: слава гарбарні з'яўляецца адначасова славай і самых Крынак. Таму не дзіўна, што адзін з найбольшых энтузіястаў роднай мясціны і незаменны памочнік кіраўніка святліцы Мікалай Яновіч паходзіць, менавіта, з дружыны гарбароў, дакладней кажучы, з дружыны рэалізатараў будовы новай гарбарні.

Чатырохсотгоддзе Крынак сталася фактам, размеры якога будуць разрастацца з месяца ў месяц аж да канца. 1969 года, калі будзе зрэалізавана ўсё, што задумалася, запланавалася і пачалося.

У добры час! (ся)

З кніжнай паліцы

## Новая праца Ф. Янкоўскага

У снежні мінулага года я пісаў пра кнігу Фёдара Янкоўскага «Роднае слова — З навукова-папулярных нарысаў» («Ніва» №49 «За культуру мовы»). Цяпер з прыемнасцю хачу сказаць некалькі слоў пра яго новую цікавую кнігу, якая з'явілася ў кнігарнях пад канец 1968 года.

Новая праца Янкоўскага «Беларуская фразеалогія»*) — гэта першы беларускі фразеалагічны тлумачальны слоўнік. З прадмовы аўтара мы даведваемся, што задума збіраць народныя прымаўкі ўзнікла ў гады другой сусветнай вайны, калі аўтар у партызанскім атрадзе змагаўся за вызваленне Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў. Ён ужо тады пачаў запісваць народныя прыказкі і прымаўкі.

Вясною 1944 года, ідучы ў разведку ў час блакады, ён закапаў у лесе свой дзённік і сшытак народных прымавак. На жаль, аўтару не ўдалося знайсці потым свой скарб. Свае запісы ён часткова аднавіў з памяці і пачаў збіраць новыя матэрыялы.

У прадмове аўтар кажа: «Ідуць гады імклівага жыцця. Наш час вымагае не бясследнага існавання, а жыцця, запоўненага клопатам і працаю, жыцця для Радзімы—Бацькаўшчыны». І сапраўды ён жыве і працуе для свайго народа.

Для новай кнігі аўтар выкарыстаў тры асноўныя крыніцы:

1) аўтарскія запісы,

2) надрукаваныя тэксты жывой народнай мовы і фальклорныя творы,

3) зборнікі беларускіх народных прыказак і прымавак.

Першая крыніца — гэта картатэка аўтара, якая налічвае некалькі тысяч народных фразеалагізмаў, прыказак, прымавак, вітанняў і пажаданняў.

Другую крыніцу складаюць галоўным чынам зборнікі беларускага фальклору Е. Раманава, З. Радчанкі, А. Сержпутоўскага, І. Сербава і М. Федароўскага.

А трэцяя крыніца — гэта зборнікі беларускіх прыказак і прымавак Івана Насовіча і Міхала Федароўскага.

Падбіраючы народныя фразеалагізмы аўтар не звяртаў увагі на тое, ці дадзены фразеалагізм ужываецца ці не ўжываецца ў беларускай літаратурнай мове. Складальнік слоўніка хацеў паказаць вялікае багацце народнай фразеалогіі, і гэта яму ўдалося.

Як правіла, аўтар прыводзіць фразеалагізм з яго варыянтамі, калі яны выступаюць, а затым дае яго значэнне. Далей ідуць прыклады ўжывання. Вось як гэта выглядае ў слоўніку.

« На дзень (на свет) займацца. Світаць. Стружа ён сабе стружа, дый падспеўвае. Чуць пачало на свет займацца, ажно чуе яшчэ здалёк, што нешта шуміць. Воўк. Дварч. (М. Фед. ЛБ II, 1). От толькі стала займацца на свет, птушачкі запелі ўсялякімі галасамі, лес ажыў, загаманіў. Маз. п. Луч. (А. Сержп. СРБП). Толечкі на свет заняліся, і ідуць ланцугом, адзін за адным. Гл. р. Хал. Як толькі стане займацца на дзень, мы і паедзем разам. Гл. р. Стар.»

Курсівам пададзены ў скарачэнні мясцовасці, дзе прыклады былі запісаны, і зборнікі (у дужках), з якіх прыклады ўзяты. Там, дзе крыніцы не паказаны, прыклады запісаны аўтарам. Скарачэнні, якія сустракаюцца ў тэксце, выяснены ў раздзеле «Скарачэнні і ўмоўныя абазначэнні».

У слоўніку ёсць і фразеалагізмы, якія ўзніклі ў выніку гістарычных падзей. Напрыклад, прымаўка «За дзедам шведам» значыць вельмі даўно («Гэта было за дзедам шведам, не за маёй памяцю»). Разумеецца, што гэта след ваеннага нашэсця шведаў у мінулых стагоддзях. Тут прыходзіць мне на памяць польская жартаўлівая прыказка «Кеды? Як былі швэды», якая таксама звязана з колішнім шведскім «патопам».

Цікава, што ў прыведзеных у кнізе прыкладах народнага моўнага фальклору часта сустракаецца слова «нашто», а толькі некалькі разоў я заўважыў «навошта». Гэта «навошта» здаецца мне словам зусім нелітаратурным, хоць яно часта ўжываецца ў літаратурных творах.

«Беларуская фразеалогія» — гэта цэнны ўклад у беларускае мовазнаўства. Кніга неабходна кожнаму, хто хоча паглыбіць сваё веданне беларускай мовы.

Вельмі цёплае ўводнае слова да працы Ф. Янкоўскага напісаў вядомы пісьменнік Янка Брыль.

Кніга выдадзена дбайна ў прыгожай трывалай вокладцы.

**Баляслаў Манкевіч**

*) Ф. Янкоўскі: «Беларуская фразеалогія — фразеалагізмы, іх значэнне, ужыванне». Рэдактары М. Яўневіч, А. Баханькоў. Мінск, «Вышэйшая школа», 1968. Стар. 451.

 




# Хто паб'е гэты сусветны рэкорд?

Татуіроўка старая, як свет. А дакладней, не столькі як свет, колькі як людзі, што на гэтым свеце жывуць. Адкуль жа ўзялося іменна ў прадстаўнікоў віду homo sapiens гэтае дзіўнае імкненне да «ўпрыгожвання» ўласнай скуры, бліжэй невядома. Спачатку, напэўна, вырашалі тут нейкія магічныя погляды, пазней — эстэтычныя — ахвота да трывалага «ўпрыгожання», а таксама паслухмянасць да «голасу моды». Існавала таксама імкненне прадстаўнікоў нейкага племені адрозніваццa ад іншых, што яшчэ можна і сёння наглядаць у некаторых прымітыўных ці паўцывілізаваных народаў.

Аднак усё гэта не высняе нам, чаму татуіроўка ўвесь час у модзе сярод цывілізаваных людзей. Ці нейкая ахвота адрозніваццa і маніфестацыя сваёй іншасці? Паказванне, што чалавек не баіцца болю? Задэманстраванне, што гэты чалавек належыць да пэўнай групы людзей ці прафесіі? Аднак людзі татуіруюцца. Робяць гэта, напрыклад, амаль усе маракі, людзі прафесій з цяжкай фізічнай працай (шахцёры, металургі, докеры, грузчыкі), розныя фантасты і эксцэнтрыкі, а таксама і злачынцы, асабліва тыя, што пасядзелі ў турме.

Аднак памылкай было б думаць, што татуіруюцца толькі мужчыны. Робяць гэта таксама і жанчыны. І то не толькі прадстаўнічкі розных азіяцкіх ці афрыканскіх плямён ці паўднёваамерыканскіх індзейцаў. Татуіруюцца таксама еўрапейкі і амерыканкі.

Праўда, робяць гэта значна радзей, чым мужчыны, але затое калі ўжо пачнуць упрыгожваць сваё цела татуіроўкай, дык б'юць у гэтым сэнсе ўсялякія рэкорды.

Вось, напрыклад, у Лондане сенсацыю выклікала міс Джэнет Фільд, па мянушцы Русты, якая аб'явіла сябе прэтэндэнткай да звання... найбольш вытатуіраванай жанчыны свету. Міс Фільд не з'яўляецца, вядома, ніякай інтэлектуалісткай, хоць залічвае сябе да так званай багемы, праводзячы жыццё ў развесяляльным раёне Лондана. Зрэшты, не ў прафесіі справа. Звычайна апранаецца яна так, як загадвае сучасная мода лонданскай багемы, г. зн. у світэр, джынсы, боты з мяккімі халявамі і з прычоскай, так сказаць, непрычэсанай. Аднак ад іншых сваіх сяброўак адрозніваецца тым, што вытатуіравана (амаль) па ўсім целе. Прычым, татуіроўка зроблена з незвычайнай фантазіяй, хоць без спецыяльнай прэтэнзіі да нейкага вялікага мастацкага ўзроўню. Але гэта ўжо віна ці заслуга стваральніка гэтых жывапісна-іголкавых твораў, нейкага Біля Сказа, як кажуць, выдатнага майстра сваёй прафесіі. Трэба дадаць, што сучасная татуіроўка трымаецца традыцыйных форм, якія заключаюцца ў грубым натуралізме, і ад якіх, вядомая справа, майстар Біль не можа адыходзіць.

На целе міс Русты ёсць амаль цэлы заапарк, як рэальны, так і фантастычны і міфічны, на пярэднім плане з акуламі, тыграмі, гадзюкамі, смокамі і г.д. Ёсць і людскія постаці, а таксама і батаніка ў выглядзе розных кветак і агароднiны. А ўсё выканана ўручную і ў натуральных колерах, наогул, «як жывое».

Міс Джэнет Фільд ахвотна паказвае творы фантазіі і ўмення Біля Сказа. Вядома, за адпаведную аплату. Асташкова, з нечага ж трэба жыць. (я)




**Пуп рэкардсменкі свету. Каб не было памылкі, чый гэта пуп, уласніца яго загадала зверху падпісаць яго сваёй мянушкай.**



**Міс Джэнет і майстар Біль.**





**Ногі і плечы міс Русты.**

# НЕ КУРЫЦЕ, ДЗЯЎЧАТЫ

Статыстыка часам падносіць нам самыя нечаканыя сюрпрызы.

Хто б, напрыклад, мог падумаць, што найбольшы працэнт хворых на рак лёгкіх сярод заўзятых курыльшчыкаў выпадае на долю маладых жанчын, прыкладна дваццаці пяці, трыццаці гадоў?

Медыцынай устаноўлена, што нікацін асабліва згубна ўплывае на малады, яшчэ не сфарміраваны жаночы арганізм, і ў першую чаргу на лёгкія. Дзяўчына, якая пачала курыць у пятнаццаці-шаснаццацігадовым узросце, праз дзесяць год захворвае на рак.

Чаму за апошнія гады нашы мілыя сяброўкі пацягнуліся да цыгарэты, якая не ўпрыгожвае іх і не робіць мілейшымі? Хто ў гэтым вінаваты, самі дзяўчаты або другая палавіна роду людскога?

— Жанчына, якая не курыць, — жанчына старамодная, — сцвярджае адна катэгорыя юных курыльшчыц, — такая зараз мода, а законы моды няўмольныя. Канешне, агідна і горка ў роце і нават моташна. Але што зробіш, калі хочаш, каб цябе лічылі сучаснай жанчынай. Мода патрабуе ахвяр.

Другая катэгорыя курыльшчыц выстаўляе, на іх погляд, яшчэ больш важкія довады:

— Гэта своесаблівы пратэст, жаданне падкрэсліць сваю незалежнасць, самастойнасць, сваю поўную раўнапраўнасць з мужчынамі.

Найбольш адкрытае, хоць і самае наіўнае тлумачэнне, выказвае трэцяя катэгорыя юных аматарак тытуню.

— Хлопцы зусім не звяртаюць увагі на дзяўчат, якія не кураць, з іх нават смяюцца, лічаць іх маляўкамі.

Вось, аказваецца, у чым справа. Для таго, каб здавацца дарослай, а найбольш для таго, каб зачараваць якога-небудзь бамбізу, трэба хапацца за курыва. Інакш, бачыце, ён не палюбіць. А ці думае ён, што стане з яго каханай праз дзесятак гадоў?

Такім чынам, выходзіць, што жанчына ўльтрасучасная, так сказаць, на ўзроўні стагоддзя, гэта жанчына з цыгарэтай у зубах.

Тлумачэнні курыльшчыц не вытрымліваюць ніякай крытыкі. Апрача таго, што курэнне вельмі шкоднае, яно і непрыгожае, часам вульгарнае і нічога агульнага не мае з паняццем аб добрым тоне, аб сапраўднай жаночай годнасці.

Мы бачым гэтую годнасць не ў сляпым следаванні шкоднай модзе, а ў свядомым праціпастаўленні ёй. Крышку больш сілы волі і сапраўднай самастойнасці, дарагія нашы сяброўкі.

Крышку больш жаночага гонару і самапавагі. Крышку больш строгасці да саміх сябе і сваіх сяброў. Сапраўднай павагай сярод мужчын карыстаюцца тыя жанчыны, якія не толькі не кураць самі, але забараняюць дыміць у сваёй прысутнасці каму б там ні было.

Не курыце, дзяўчаты!

Пакіньце гэты занятак другой часткі роду людскога, якой ён таксама нічога не прыносіць, апрача вялікай шкоды.

## Чвэрць стагоддзя назад




**(Пачатак у папярэднім нумары)**

Падпёр я дзверы карабінам немца, вярнуўся ў пакой, падышоў да ляжачага Мілера і, каб упэўніцца, што ён сапраўды мёртвы, штурхнуў яго руку. Не выявіў ніякіх знакаў жыцця. Зняў я з яго галавы шапку і адзеў на сваю. Была крыху завялікая. Трымаючы ў правай руцэ пісталет, левай расшпільваў гузікі шыняля. Не мог аднак я адной рукой расшпіліць пояса: перашкаджала ў гэтым ляжачая пазіцыя гітлераўца. Каб мець рукі свабоднымі ўсадзіў я пісталет за пояс. Маніпулюю я каля пражкі Мілера, і ў гэтым моманце ажывае гітлеравец. Перад вачыма мільгануў пісталет. Інстынктоўна адбіваю яго ўбок і хапаю левай далоняй. Каля вуха бахнуў выстрал. З усіх сіл левай рукой трымаю за пісталет немца, не дазваляючы накіраваць яго на сябе, правай шукаю свайго пісталета. У паспешлівасці не магу яго знайсці. Гітлеравец адной рукой хапае мяне за горла. Тузаемся. На шчасце мой пісталет знайшоўся ў далоні. Я не стрэліў. Сам не ведаю чаму. Мо не меў часу? Але з усёй сілы ўдарыў я немца пісталетам па галаве. Мілер глуха енкнуў і паваліўся, выпускаючы з лапы свой «Вальтэр». Трымаючы ў абедзвюх руках, гатовыя да выстралу пісталеты, кінуўся я ў сені, ударыў нагой карабін, што падпіраў дзверы і выскачыў на панадворак. Пераскочыўшы плот, я гнаўся па агародзе. Апамятаўшыся, падумаў: чаму ніхто ў мяне не страляе? чаму ніхто мяне не ловіць? што гэта?

Наступала світанне. Праз чыйсці панадворак падбег я да вуліцы, глянуў улева, управа — пуста. Перабег я на другі бок вуліцы, потым зноў панадворак, клуня, а за клуняй збаўца — лес. Я быў жывы і свабодны!

Бегучы праз лес, адчуў я галавакружэнне. Відаць ад сплыву крыві. Спыніўся, выцягнуў з нагавіц сарочку, адарваў ад споду шыроку ленту матэрыялу, абандажаваў галаву.

Пагода была добрая. Цяжкія хмары віселі над зямлёй, падаў ні то дождж, ні то снег. Апісваючы вялікі круг, уцякаў я на поўдзень.

Скончыўся лес. Відаць чыгуначную дарогу Чаромуха—Брэст. Гляджу з-за карчоў уздоўж чыгункі. Па шпалах ідзе ў маім напрамку чалавек. На ім доўгі шынель. Яшчэ ён далёка, але можа заўважыць, як буду пераходзіць праз чыгунку. Хіба, немец. Схаваюся ў маладым сасняку, што тут жа, пры пуцях. Як падыдзе, застралю, як сабаку. Цяпер мне ўсё роўна: не зловяць!

Постаць набліжаецца, напявае песню. Ужо пазнаю не толькі мелодыю, але і словы:

...Выхадзіла, песні завадзіла
Пра сцепнова сізава арла...

Гэта словы «Кацюшы», дык павінен быць свой. Падыходзіць яшчэ бліжэй. На ім не плашч, але доўгая, шэрая, суконная, самаробная чуя, якую тут сяляне носяць у дажджлівыя дні. Зраўняўся са мной. Выходжу з карчоў.

— Дзядзя, — гавару да яго па-руску, — падыдзі ка мне!

Паварочваецца. Бачу на яго твары жах. Не здзіўляюся, відаць я выглядаў страшна: абвязана шматай галава, вымазаны крывёй твар, такая ж і кашуля пад барадой, у руцэ пісталет...

Падышоў аднак да мяне.

— Дзе немцы? — спытаў я. — Ёсць недзе непадалёк?

— Нэма нікого, оні все побіглі там, дэ поднялася стрэляніна, — гаварыў той мясцовай гаворкай.

— Праўду гаворыш?

— Клінуся Богом!

— Веру табе. Не гавары нікому, што мяне бачыў. Помні...! Да пабачэння!

— Вазьмі, сыночку мою чуйку. Простудзішся: такая ліхая погода, а ты только ў піджаку...

За гэтыя словы я гатоў быў яго расцалаваць. Мой выгляд пераканаў яго, што я свой, ахвяраваў мне сваю чую.

— Дзякую, дзядзька, не зайшоў бы я далёка ў тваёй чуі. Нічога мне не будзе, бывайце здаровы!

— Як уважаеш, ідзі з Богом!

Ішоў я наўпрасткі праз лугі, зараслі, палі, пакрытыя латкамі бруднага снегу. Ногі правальваліся да каленяў у рэдкай мазі, пот залівам вочы, у грудзях не хапала паветра.

Пад Кляшчэлямі перайшоў я другі чыгуначны пуць: Бельск—Седльцы і накіраваў свае крокі ў напрамку Боцек. Дацягнуўся да дарогі, што вяла з Кляшчэляў у Жукі. Далей не меў сіл ісці полем.

Хай дзеецца, што хоча, далей пайду дарогай, — вырашыў я.



**Пісталет шэфа жандармерыі ў Орлі, Мілера. Цяпер — адзін з ваенных трафеяў палкоўніка Яна Анаціка. Ён нагадвае колішняму «Валодзі» драматычныя хвіліны змагання з лютым ворагам.** (рэд).



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## ЯК З НУДОЙ ЗМАГАЦЦА

У Вялікіх Фальварках, 3-кіламетравай вёсцы, нічога не дзеецца.

Многа нуды і незадавальнення сярод моладзі. На працягу ўсёй зімы не было ані адной забавы, ані аднаго якога-небудзь вясковага мерапрыемства. Сюды не прыязджае ані кінаперасоўка, ані «Лявоніха», ані мастацкія калектывы іншых вёсак. У іншых вёсках ёсць і святліцы, ёсць і клуба-кавярні, ёсць і школы, у якіх моладзь магла б сабрацца. У нас няма нічога. Мы не маем дзе праводзіць вольны час. Была ў нас калісьці святліца. Але цяпер у ёй вучацца дзеці, таму што школьны будынак ужо развальваецца.

Здавалася б, калі гэта была святліца, кіраўнічка школы Ніна Вазнеўская павінна дазваляць моладзі нешта ў ёй арганізоўваць. Мы хацелі б нямнога: калі-некалі патанцаваць, паглядзець тут фільм, арганізаваць мастацкую частку і выступіць тут. Але аб гэтым няма што і гаварыць, таму што няма каму слухаць нашай гаворкі.

Хлопцы і дзяўчаты
з Вялікіх Фальваркаў

## НА ВУЛІЦЫ Ў ЧЭХАХ

Яшчэ снег не перастаў задзімаць дарогу, як жыхары вёскі Чэхі Арлянскія па прапанове солтыса Васіля Андросюка і каменданта ОРМО Кірыла Самосюка выйшлі раскопваць снег на вуліцы. Гурбы снегу месцамі дасягалі да паўтара метра, так што дзецям у школу і жыхарам да клубу прайсці было немагчыма. На дапамогу старэйшым выйшлі вучні з сваёй класнай выхавацелькай Оляй Міроньчук. Работа была зроблена хутка, і з радасцю ўсе разышліся па дамах, а вуліцай не толькі можа прайсці чалавек, а нават таксі можа свабодна ехаць.

**Мікалай Корх**
Чэхі Арлянскія

## КУЛІНАРНЫЯ ВЕДЫ

Гурток вясковых гаспадынь у Пяньках (Беластоцкі павет) мае немалыя дасягненні. Аб ім можна многа пісаць. Шмат розных курсаў арганізаваў гурток. А вось некаторыя з іх: курсы крою і шыцця, гатавання, пячэння, гафтавання, мясных вырабаў і шмат іншых.

Многа чаго навучыліся пяньkоўскія жанчыны. А кожнае мерапрыемства, кожны курс прыносіць шмат задавальнення, яшчэ лепш аб'ядноўвае яго ўдзельнікаў, прывівае навыкі калектыўнай працы.

А цяпер у былой святліцы зроблена кухня, і ў ёй яшчэ больш, яшчэ лепш будзе арганізаваць падобныя кулінарныя курсы. А трэба ведаць, што кулінарыя — гэта аграмадная галіна ведаў, якія трэба здабываць не на адным курсе.

**Уладзімір Азябла**
Пянькі

---

Была гадзіна дзевятая раніцы. З боку вёскі Жукі ехала чарада фурманак. На фурманках поўна людзей: мужчыны ў зімовых пальто, жанчыны — ахутаныя зімовымі хусткамі. Ішоў я насупраць іх: у адным пінжаку з паабрыванымі Мілерам поламі, з голай, забінтаванай закрываўленай шматай, галавой, з закрываўленым тварам.

Людзі з фурманак глядзелі на мяне, як на пудзіла гарохавае. Жанчыны хрысціліся.

Што гэта сёння, куды іх толькі едзе? — думаў я. — Ах, сёння другі люты — грамніцы. Едуць да касцёла ў Кляшчэлі. Зрабіў я глупства, нехта з іх можа паведаміць жандармерыю. Можна чакаць пагоні.

Перад вёскай Жукі плыве рэчка Нурэц. Дайшоў я да моста. Не відаць берагоў ракі, рака разлілася. Багны на яе абедзвюх баках, зарослыя альшынай, бярэзняком, івай і карчамі лазы, залітыя шырынёю ў звыш паўкіламетра. Дык гэта пойма вядзе да Кабылiных Галоў. Пайду тэтымі зараслямі па вадзе. Тут згінуць усе мае сляды: хай ловяць мяне жандары, хай шукаюць — ні паліцэйскія сабакі, ні сам чорт ім не паможа.

Ішоў я праз зараслі, уздоўж ракі, па вадзе, якая была вышэй кален. Праход дзесяці кіламетраў заняў мне амаль пяць гадзін часу. Каля гадзіны другой пасля абеду прывітаў мяне ціхі вокрык нашага вартаўніка:

— Стой, хто ідзе? Пароль?

Вартаўнік не пазнаў мяне. Я назваў пароль і зваліўся на зямлю.

**Ян Анацік**

## У НАСТАЎНІЦКІМ АГНІСКУ

Агніска Саюза польскіх настаўнікаў (ЗНП) пры пачатковай школе № 1 у Бельску Падляшскім падсумавала сваю трохгадовую працу і выбрала новае праўленне.

Справаздачна-выбарчыя сходы, якія адбываюцца ва ўсіх агніскаx Бельскага павета, абмяркоўваюць сваю працу і накрэсліваюць далейшыя напрамкі працы.

Агніска, аб якім вышэй пайшла гутарка, добра працуе. Усе настаўнікі вельмі сур'ёзна трактуюць сваю працу. Яны самаадукацыю спалучаюць з адпачынкам, намаганні аб вышэйшым ўзроўні навучання — з уласцівай выхаваўчай працай з моладдзю. Агніска гэтае арганізуе выязныя канферэнцыі. Адна з такіх канферэнцый адбылася ў Баньках. Можна тут было пазнаёміцца дакладна з асяроддзем і з умовамі працы настаўнікаў на вёсцы. А выязная канферэнцыя ў Варшаву дала магчымасць спаткацца са знатнымі педагогамі, пабыць у тэатры, пазнаёміцца са славутасцямі сталіцы.

Агніска часта арганізоўвае таварыскія вечары з гульнямі і забавамі.

Амаль усе члены агніска шмат працуюць грамадска. Тадэуш Пшэздзецкі, Ольга Навіцкая, Анна Чэрвацкая і іншыя настаўнікі — гэта актыўныя гарцэрскія інструктары. Шмат настаўнікаў актыўна працуе ў партыйных арганізацыях, у беларускім таварыстве.

Апошняя канферэнцыя агніска выбрала новыя ўлады. Старшынёю настаўнікі выбралі Сцяпана Бароўскага.

**В. Фалькоўскі**
Бельск Падляшскі




**Дарагое Сэрцайка!**

Пазнаёміўся я з дзяўчынай з вёскі ў іншым павеце. Мяне з ёю пазнаёміў мой брат. Яна мне вельмі спадабалася. Я ўжо не малады і хацеў бы жаніцца. Але я жыву ў горадзе (часова, бо маю добрую гаспадарку). Марыся мае 25 год. Прыстойная, ветлівая. Але я ў маёй вёсцы лічуся адным з першых кавалераў, як гавораць на вёсцы. Я і сам не ведаю, чаму прыдалі мне такую мянушку, бо мне здаецца, што я не такі ўжо прыстойны і нічым асаблівым не вылучаюся сярод сяброў. Аднак на вёсцы часта такія рэчы здараюцца. І вось што мяне мучыць. Марыся разведзена. Год таму назад яна выйшла замуж, але пасля двух месяцаў разышлася з мужам (разводу афіцыяльна яшчэ не мае, бо справа ў судзе чакае чаргі). Ён выехаў адразу ў горад і знайшоў іншую. Марыся была ў маіх бацькоў і ўсім спадабалася. Яны настойваюць, каб я з ёю ажаніўся. Але і я, і бацькі ўсё скрываем перад людзьмі, што яна разведзеная, бо гэта не гонар для кавалера жаніцца з разведзенай. Сам не ведаю, што рабіць. Вядома, і так людзі аб гэтым даведаюцца. Парай, Сэрцайка, ці жаніцца з Марысяй (я паўтараю: яна мне вельмі падабаецца), ці пакінуць Марысю і агледзецца за іншай дзяўчынай?

**Грышка з Бельшчыны**

**Паважаны Грышка!** Ты ўжо не такі малады, каб глядзець на ўсялякія плёткі людзей. Ты ж бярэш жонку сабе, а не людзям, і не на адзін дзень, а на цэлае жыццё (так прынамсі павінны думаць усе, хто жэніцца і выходзіць замуж). Марыся падабаецца табе і тваёй сям'і. Дык чаго ж чакаеш? Ці ж яна горшая толькі з-за таго, што не павязло ёй з замужаствам? У жыцці ўсяляк здараецца, але важнае цяпер тое, што ты Марысі падабаешся, а яна — табе.

**Жадаю вам ўсяго найлепшага**
**Сэрцайка**

## ЖАНЧЫНЫ КУР'ЯН

У вёсцы Кур'яны (Бельскі павет) адбылася нядаўна ўрачыстая вечарына, прысвечаная дзесятай гадавіне існавання ў гэтай вёсцы гуртка вясковых гаспадынь. Узначальвае 45-асабовую жаночую арганізацыю настаўніца Яніна Гжэгорчык. З ініцыятывы гуртка былі арганізаваны ў вёсцы розныя курсы: пячэння, гатавання, крою і шыцця, гафтавання, касметыкі.

Цікава і весела стала ў Кур'янах ад таго часу, калі стаў разгортваць працу жаночы гурток. Ён часта з'яўляецца арганізатарам розных агародніцкіх конкурсаў, краязнаўчых экскурсій, калектыўнага чытання цікавай літаратуры. А ўжо калі дзяўчына выходзіць замуж, або калі ў члена жаночай арганізацыі народзіцца дзіця, тады ад імя гуртка ўручаюцца падарункі і складаюцца пажаданні. Варта адзначыць і тое, што гурток арганізаваў выпазычальню сціральных машын, пыласосаў, шаткаўніц і іншых прыладаў. А гэта ўсё аблягчае працу жанчыны.

Вечарына з нагоды дзесяцігоддзя існавання гуртка мела багатую праграму. Была падрыхтавана мастацкая частка, розныя гульні і конкурсы. Былі запрошаны на вечарыну мужы жанчын і нарачоныя дзяўчат. Прыехалі таксама прадстаўнікі павятовых улад.

Тэкст і фота
**Янцал**



**Прэзас Павятовага праўлення сельгасгуртк оў Пётр Сапюковіч уручае дыплом старшыні вясковых гаспадынь, настаўніцы Яніне Гжэгорчык.**



**Памятны здымак членаў жаночага гуртка.**

## МАЛАДЫЯ ГАСПАДЫНІ

Некалькі год таму ў Паўлах праводзіўся курс гатавання і пячэння. На курс гэты хадзілі жанчыны рознага ўзросту. Былі і маладыя дзяўчаты: Ліда Аляксеюк, Ліда Андрэюк, Ніна Букач і многа іншых. На гэты курс яны запісаліся зараз пасля заканчэння пачатковай школы. Ведалі, што напэўна калісьці будзе патрэбнае ім гэта. Цяпер лічацца яны ўжо даслымі дзяўчатамі і не маюць клопатаў з гатаваннем.

**Я. Коля**
Паўлы

## 50-АЯ ГАДАВІНА БССР

15 лютага Бельскі аддзел беларускага таварыства арганізаваў у Орлі акадэмію, прысвечаную 50-ай гадавіне БССР. Узялі ў ёй удзел прадстаўнікі павятовых улад з Бельска на чале з кіраўніком аддзела прапаганды павятовага камітэта ПАРП тав. Аляксандрам Хшаноўскім.

З дакладам выступіў член праўлення аддзела дырэктар ліцэя ў Бельску Мікалай Гайдук. Прысутныя ў перапоўненай зале з вялікім зацікаўленнем глядзелі мастацкую частку падрыхтаваную мясцовай пачатковай школай.

**Тэкст і фота**
**П. Зінкевіч**



**Аматарскі калектыў школы ў Орлі.**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Ameryka, Ameryka" (USA), 11—12. „Zemsta OAS" (franc.), 13—14. „Zosia" (radz.), 15—16.

**Дубіны**
„Między linami ringu" (USA), „Żywot Mateusza" (polski),15-16.

**Нараўка**
„Jutro Meksyk" (polski). „Krew na śniegu" (jugosł.),12-16.

**Нарва**
„Intrygantki"' (czeski), „Noc Iguary"' (USA), 12—16.

**Чыжы**
„Hasło Korn" (polski), „Niepokoje wychowanka Torlesa" (NRF), 12—16.

**Дубічы Царкоўныя**
„Szybsza od wiatru" (radz.), 11—12. „Falstaff" (hisz.), 13—14. „Noc bez końca" (bułg.), 15—16.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Gdzie jest generał" (polski). „Czerwone berety" (polski), 12—16.

**Орля**
„Film z czarującą dziewczyną" (rumuński), „Zaufaj mi Anno" (bułg.), 12—16.

**Райск**
„Zamach" (polski), „Zakazane piosenki" (polski), 12—16.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Winetou" (jugosł.), I i II s. 11—14.

**Міхалова**
„Gorzkie życie" (włoski), 11—12. „Zosia" (radz.), 13—14. „Krzyżacy" (polski), 15—16.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Starsza pani bez godności" (franc.), 11—12. „Szkarłatne godło odwagi" (USA), 13—14. „Miasto nieujarzmione" (polski), 15—16.

**Шудзялава**
„Wycieczka w nieznane" (polski), „Upiór z Morsville" (czeski), 12—16.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Trzy topole" (radz.), „Drewniany różaniec" (polski), 12—16.

**Новы Двор**
„Sami na oceanie" (radz.), „Rondo" (jugosł.), 15—16.

**Ліпск**
„Faraon" (polski), „Panowie z kompleksami" (włoski), 15—15.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 7117

# ШТО МНЕ РАБІЦЬ?

Скончылася маё прывольнае жыццё. Раней, бывала, прыдзеш з работы — за вуды і на рыбалку. Нічога, што жонка, адна не ўпраўляючыся па гаспадарцы, такі падымала вэрхал — ажно ў суседніх вёсках было чуваць:

— У іншых — мужыкі, як мужыкі, а ў мяне — рыбак няшчасны.

Але цяпер усё пайшло інакш. Ужо не да рыбалкі мне. А здарылася гэта вось як.

Нядаўна, прадаўшы сваю няўдаліцу-карову, пайшлі на рынак. Ходзім, выбіраем карову. Бачу, мая Хрысціна, аблюбазаўшы карову, разгаварылася з яе гаспадаром... Няйначай, пагадзіліся... А калі я падышоў да іх, Хрысціна пачала мне гаварыць:

— Давай купім. Гэта ж такая карова!

— Калі табе спадабалася, дык купляйма.

Прывёўшы з рынку карову, Хрысціна ўзяла вядро і пайшла даіць. Мяне таксама паклікала. Ледзь толькі прысела яна ля вымя, карова як стрэліла нагой, дык вядро ажно ля дзвярэй апынулася. Яшчэ раз падыйшла мая кабета да каровы — тая аж шалее... Здавалася, ланцуг парве. Во, думаю, купілі няшчасце. А тут Хрысціна гаворыць мне:

— Мо ты паспрабуй даіць.

Узяў я вядро і падышоў да каровы. І што б вы думалі, — стаіць як укапаная. І давялося мне даіць і раніцай, і апоўдні, і ўвечары. А жонку ўсё не падпускала.

Засумавалі па мне вуды. Не вышерпеў, і ўжо на трэці дзень пайшоў у тую вёску, адкуль карову купілі.

А цяпер вяртаюся дадому і думаю, што мне рабіць? Той чалавек адкрыў сакрэт.

— Мая жонка, — сказаў ён, — усё жыццё хварэе. Карову, якую я вам прадаў, яна ніколі не даіла. Даіў я. Вось яна і не падпускае да сябе жанчын. Да нашага брата прывыкла.

А калі я запытаў у яго, чаму ён не сказаў аб гэтым яшчэ на рынку, дык ад яго адказу мне аж млосна зрабілася. Аказваецца, калі яшчэ Хрысціна без мяне агледала карову, гэты чалавек папярэдзіў яе:

— Карову толькі мужык будзе даіць. Жанчын не падпускае.

— Маййу Рыгору гэта не страшна. Ён у мяне ўвесь час і так даіў карову, — схлусіла мая Хрысціна.

Не баба, а шэльма. Вось як адпомсціла мне за тое, што раней па гаспадарцы не дапамагаў. Бывай рыбалка...

**І. Багін**



І ведзьмы не адстаюць ад жыцця.

# НІЎКА



Без слоў

## ЁН ДУМАЎ

Кароль Артур нагнуўся, каб падняць два пенсы, якія выпалі ў яго з кішэні. У гэты час да яго ззаду прыкраўся прыдворны блазан і шлёпнуў каранаваную асобу па адным месцы. Кароль ад нечаканасці падскочыў, а калі апрытомнеў, яго ахапіў такі гнеў, што ён загадаў пакараць смерцю блазна за такую дзёрзкасць. Аднак, калі ён крыху супакоіўся, то аб'явіў, што памілуе блазна, калі той знойдзе апраўданне свайму ўчынку.

— Няма нічога прасцей, — сказаў блазан. — Па праўдзе кажучы, я не ведаў, што гэта вы. Я думаў, што гэта каралева.

## ЗАПРАШЭННЕ

— Заставайцеся, пан доктар. Пакуль дождж, мая дачка сыграе вам на піяніна.

— Дзякуй, дзякуй, дождж не такі ўжо і вялікі.

## ЗРАЗУМЕЎ

Адзін хлопец кажа другому:

— З таго часу, як дзяўчаты пачалі насіць міні-спадніцы, я зразумеў, чаму яны раней так старанна хавалі свае ногі.

## ПАДАРАВАЎ... САБЕ

— Ты што купіў сваёй нявесце?

— Ёй попельніцу я бяру.

— Яна ж не курыць, што ты, урэшце?

— Але ж затое я куру!

**М. Вяршынін**



— Пара звольніць гэту супрацоўніцу. Незразумела, чым яна займаецца на рабоце.

## ХТО

Папугай, які застаўся адзін дома, адчуў сябе блага і вырашыў звярнуцца да ветэрынара. Ён зняў тэлефонную трубку і дзюбай набраў патрэбны нумар:

— Я хацеў бы пагаварыць з доктарам...

— Яго няма дома.

— А хто гэта гаворыць?

— Яго папугай.

## З ФРАНЦУЗСКАГА

Хто такая какетка?

Дабрадзейка, якая робіць усім маленькія падачкі, пакідаючы сапраўдных беднякоў у галечы.

✲

Што такое каханне?

Песня, якая пачынаецца сола, працягваецца дуэтам і канчаецца трыо.



**— Мая жонка мне дыхнуць не дае.**

**— Мая наадварот. Заўсёды сустракае словамі: «А ну, даражэнькі, дыхні».**

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

**Тамара і Маруся Сідорскія, Люцыяна Красоўская, Ліда Дэрэвонька, Каця Самусевіч, Мікалай Сідорскі, Віцю і Разалія Жукоўскія, Ванда Скарупка з Пілік і Дабраміля,** а таксама **Тамара і Ліда з Плюціч Бельскага павета** просяць надрукаваць словы песні пад загалоўкам:

## KWIATY WE WŁOSACH

Kwiaty we włosach potargał wiatr
Po co mi wracać do tamtych lat.
Zgubionych dni nie znajdziesz już
Przejdziesz świat wszerz i wzdłuż.

Kwiaty we włosach potargał wiatr.
Dawno zmieniłaś swych marzeń kształt,
I dzisiaj ty i dzisiaj ja
To drogi dwie i szczęścia dwa.
Więc choć z daleka wołasz mnie,
Nie powiem tak, nie powiem nie.
Bez wspomnień czasem łatwiej żyć
Nie wraca nikt.

Kwiaty we włosach potargał wiatr.
Wyrzuć z pamięci ostatni ślad,
bo dzisiaj ty, bo dzisiaj ja
To drogi dwie i szczęścia dwa.
Więc choć z daleka wołasz mnie
Nie powiem tak, nie powiem nie.
Bez wspomnień czasem łatwiej żyć.
Nie wraca nikt.

## У ПОШУКАХ НЯВЕСТКІ

Адзін хлапец ніяк не мог ажаніцца. Спадабецца яму нейкая дзяўчына, прывядзе ён яе да маці, а маці то вочы не такія, то нос не падыходзіць, то губы не падабаюцца.

Урэшце знайшоў хлапец дзяўчыну, якая, як дзве кроплі вады, была падобна да маці: такія ж вочы, нос, губы, нават размова і то была падобна. Спадабалася яна маці. Быў бы ўжо ажаніўся, але гэтым разам катэгарычна запярэчыў бацька.

## НЯБЕСНЫЯ ЦЕЛЫ

— Фу, бессаромніца! За ёю вондзе валочыцца цэлы хвост, — казалі пра каметы парадачныя зоркі першай велічыні. Хоць, між іншым, у многіх з іх было па некалькі невідочных здалёк спадарожнікаў.

Зайздросныя ўсё-такі гэтыя нябесныя целы...

## «ШЧОДРАЯ» ЦЕШЧА

Прыйшоў зяць у госці да цешчы.

Паставіла яна на стол трохі перакусіць і пляшку, а ў ёй было трошкі гарэлкі, а каля пляшкі малюсенькі кілішак.

— Бадай таму рукі паўсыхалі б, хто такі малюсенькі кілішак зрабіў, — кажа цешча.

А зяць адказвае:

— А таму, хто яе купляў, бадай бы вочы павылазілі.

## ЯК ЗАВЕЦЦА

Сын пытаецца ў бацькі:

— Тата, нежанаты мужчына завецца хлопцам?

— Ага.

— А як завецца жанаты мужчына?

— Ты яшчэ занадта малы, каб ведаць такія рэчы.

## СЯБРОЎКІ

— Гэта праўда, што ты ўчора развялася?

— Праўда.

— А хто той шчаслівчык?

## ШТО

Дзве жанчыны ўважліва разглядаюць торт, які спякла іх сяброўка на свой дзень нараджэння.

— Што гэта! — здзіўляецца адна з іх. — У торце ўсяго дваццаць свечак!

— Відаць, іх будуць запальваць з двух канцоў.

## ЦІ ІСНУЕ

Ці існуе што-небудзь больш непрыемнае, чым жонка, якая ўмее гатаваць, але не жадае гэтага рабіць? Можа толькі жонка, якая не ўмее гатаваць, але настойліва гэта робіць.

**Р. Фрост**

## З ТАГО СВЕТУ




— Што, разводзіцеся?

— Не зышліся характарам.

# КУРЁЗЫ

## Шматабяцаючы баль

Горад Атланта ў штаце Джорджыя славіцца сваімі балямі. Там іх ладзяць з сапраўды амерыканскім размахам.

Вось у мясцовай газеце можна было прачытаць цікавы артыкул пра наступны штогадовы баль.

«Мы спадзяемся, — піша газета, — што і сёлета баль прынясе нам шмат цікавых неспадзяванак. Не трэба забываць, што вынікі мінулагодняга балю былі сенсацыйнымі: васемнаццаць знатных грамадзян, вядомых усяму гораду, пачалі пасля балю шлюбаразводныя працэсы са сваімі жонкамі».

Умеюць жа гуляць, чэрці!

## Антыфеміністы

Камары пераважна антыфеміністы і аддаюць перавагу мужчынскаму целу. Да такіх вывадаў дайшлі амерыканскія энтолагі, якія цвердзяць, што камары кідаюцца на жанчын толькі з браку чагосьці лепшага.

Хоць яны дацанілі нас!

## Калі ласка

Жанчыны куды менш пляткуюць за мужчын. Да такіх вывадаў дайшлі англійскія сацыёлагі пад кіраўніцтвам пані Маргарэт Кільнер. Яны падслухалі 125 гутарак жаночых і мужчынскіх, якія вяліся ў часе працы. Мужчыны аказаліся ў два разы больш гаварлівымі і на дабавак больш зласлівымі ў адносінах да трэціх асоб.

Ну і ганарыся тут мужчынскім родам!

## Пілюлі, пілюлі...

Англійскае таварыства аховы звяроў мае намер выпрадукаваць антыканцэпцыйныя пілюлі для сабак і катоў. Прычына: у самым толькі Бірмінгаме кожнага тыдня трэба пазбыцца 250 катоў і 200 сабак.

І ў Англіі звяліся гіцлі!




**Жанчыне, у адрозненне ад пісьменніка, дазволена займацца лакіроўкай рэчаіснасці.**